ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 (1524) ГОД XXX БЕЛАСТОК 28 ЛІПЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.

БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

## ПАКЛОН ДАШАМ

Люблю такія хвіліны — узнёслай бурлівай радасці. Табе добра. Кругом сябры, кругом свае, кругом найлепшыя людзі. Ты гэта чуеш сэрцам. Цябе пранізвае, ахоплівае, атуляе іхняе цяпло. Толькі недзе з сярэдзіны хлыне часта хваля, як бы здушыць за горла — гэта прыемна. Плыве крылатая родная песня — ты ў сёмым небе. Няма ночы, няма далёкай дарогі. Адно жаданне: каб час бег памалей.

Я на „беларускім вечары“ ў Дашах!

Беларускі ён быў ва ўсіх ста працэнтах, ва ўсёй 3-гадзіннай праграме, і ў атмасферы, і ў паводзінах людзей. Інакш, бадай, і быць не магло, бо дашоўцы цвёрда ведаюць, хто яны.

Гэта вялікая беларуская вёска жыве на вялікім грамадзянскім уздыме і ўмацоўвае сваё імя на рубяжы. Умацоўвае на гаспадарчай, грамадскай і культурнай ніве.

Дашы належаць да найпрацавітых людзей. Вёска багатая. Заможнасць кідаецца ў вочы, найперш парадкам і чысцінёй вуліцы, панадворкаў, хатаў.

Яшчэ ўсюды ціха, толькі людзі спешна ўвозяць высокія фуры сена і дзе-недзе тужліва замычыць карова — хоча аддаць малако з набраклага вымя.

А гэты прыклад я запісала ад намесніка каменданта пажарнай каманды Аляксея Маркевіча. Яшчэ да вайны ў вёсцы прабавалі арганізаваць пажарную стражу, але яе жывая дзейнасць вядзецца ўжо ад пасляваенных гадоў і звязана з асобай Андрэя Рачука — першага каменданта, які ўжо не жыве. Пры ім пабудавалі рамізу. Цяпер камендантам з'яўляецца Васіль Маркевіч і вось у мінулым годзе да рамізы грамадскім пачынам усяе вёскі дабудавалі святліцу. Грошы — з вясковага фонду. Арганізатарам пачыну быў Уладзімір Рошчанка.



Калектыў з Дашоў. Фота М. Вілюка

Аляксей Маркевіч расказвае пра пажарны басейн, які выкапалі за рамізай. Незадаволены. Басейн то яны выкапалі, але гміна ў Кляшчэлях не дала пліт, каб вымураваць яго, і басейн замуліўся. Абяцаюць рамонт, але калі?

У святліцу пачынаюць ісці людзі. Клічуць нас. Мой размоўца ідзе найперш пабрыцца і памыцца, бо „так ад работы, то не харашэ паказацца“.

Усе, хто прыйшоў на вечар былі адзеты прыгожа, па-святочнаму, хоць дзень быў будні (субота) і яны яшчэ на хвіліну перад гэтым працавалі. Сёлета людзям у зборы першага пакоса сена вельмі перашкаджалі даждfestival.

(Працяг на стар. 2)

З рэпарцёрскіх запісак

## У СЯМЯЦІЦКІМ „ГОРТЭКСЕ“

Сямяціцкі „Гортэкс“ з'яўляецца адным з малодшых прадпрыемстваў на Беласточчыне. Яго гісторыя пачалася гадоў дзесяць таму назад. Сямяцічы былі тады ціхім мястэчкам з вялікімі прэтэнзіямі да слаўнай сваёй гісторыі, якая ў апошнім стагоддзі абышлася з гэтым горадам як мачаха. Калісьці цераз Сямяцічы ад Варшавы ішоў важны шлях у Гародню і далей у сталічную Вільню. У Сямяцічах спыняліся рыцарскія і шляхецкія абозы, а палац княжны Анны Ябланоўскай быў важным асветніцкім цэнтрам у другой палавіне XVIII стагоддзя.

Пасля таксама і чыгунка абмінула гэты горад у нейкіх 10 кіламетрах, бо яго жыхары, а дакладней кажучы, тадышнія радныя горада Сямяцічы, паскупіліся і рашуча заявілі падрадчыку, які праводзіў пабудову чыгункі, што не можа ён разлічваць у іх на парадачны хабар, а на дабавак тутэйшыя гаспадыні ўзнялі лямант, што ад гэтай чортавай машыны, якая агнём дыхае і ганяецца па рэйках, у іх кароўкі запусцяцца, а куры перастануць нясціся.

На шчасце для Сямяціч, знайшліся тут энергічныя непаседлівыя людзі, якія на гэты раз не праспалі надарыўшыхся шанцаў. Гэтыя шанцы стварыў конкурс па спаборніцтву малых гарадоў. Мерапрыемства было раздзьмухана тэлебачаннем на ўсю краіну і дазволіла паказацца Сямяцічам, якія сталіся лаўрэатам і пераможцам гэтага конкурсу.

Узнагародай была, між іншым, пабудова прадпрыемства па перапрацоўцы фруктаў і агародніны вядомай у краіне фірмы „Гортэкс“. Пабудова пачалася ў 1975 г., а ў 1978 годзе сямяціцкі „Гортэкс“ праводзіў ужо першую скупку ягад і яблык.

(Працяг на стар. 4)




У двух кіламетрах за Сямяцічамі — вырас „Гортэкс“.




### АБ „НІВЕ“ — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

Паважаны Мікола Андрэевіч! У нумары ад 16 чэрвеня вы пытаеце, якая „Ніва“ і для каго яна? Калі вы не ведаеце, то я вам скажу. „Ніва“ для ўсіх — для старых, малых і маладых, а галоўнае — яна для праўдзівых беларусаў. Яна найцікавейшая за ўсе газеты!

„Ніва“ — наша гордасць, наша слава. Я чытаю „Ніву“ ад яе першага нумара і не ўяўляю жыцця без „Нівы“. „Ніва“ мне многа дала ў маім жыцці: радасці, шчасця, навукі. Я па-беларуску навучылася чытаць і крыху пісаць дзякуючы „Ніве“. Але не толькі я, бо і мой муж, і дачка, і ўнучка, якой 12 год, чытаем па-беларуску добра. І ўсіх нас навучыла „Ніва“.

Вы пішаце, што „Ніва“ толькі для старэчаў. Не цурайцеся нашай старасці, бо і вы будзеце такімі. Мне 75 гадоў. Старая, слабая, хадзіць мне цяжка. І цэлае маё задавальненне душэўнае і радасць — „Ніва“ і суботняя беларуская перадача па радыё. Яны для мяне найлепшае лякарства. Я аджываю целам і душою, і за гэта я шчыра ўдзячна.

Ці вы, маладыя, ведаеце, што такое голад, холад і бяздомнасць? Не, вы нічога не ведаеце, бо вы таго не перажылі. Мая сяброўка часта ўспамінае, як „добра“ калісь жылося дзецям.

Яна расказвае. Наша мама ўставала разам з сонцам. Наварыць, бывала, гаршчок нейкага супу і дасць па куску хлеба, а астатні хлеб вынясе на гару і сама пойдзе на цэлы дзень у поле. Рабіла калісь вельмі многа і цяжка, за сябе і за мужыка, бо бацькі ў нас не было. Я была найстарэйшая, мне ўжо было 10 год. Двое меншых было яшчэ. Мама, выходзячы, загадвала мне, каб я за ўсім глядзела, каб і зелля нарвала і парася накарміла. Я слухала і завярала маму: добра, мамачка, добра. Усё будзе добра. А сама думала толькі аб адным — аб хлебе, як да яго дабрацца.

І вось улазіла я на страху, адкручвала два кулікі саломы і праз дзірку ўваходзіла на гару. І тут перад маімі вачыма адкрывалася вялікая радасць: ляжала паўбуханкі хлеба і вісела паўкуска старога, жоўтага, з чарвячкамі, іх звалі сальнічкамі, сала. Якая радасць! Нажа няма, то я зубамі, рукамі кручу, грызу і наядаюся дасыта. Потым злезу, кулікі папраўлю і хаджу, як ліса.

Вечарам, калі мама прыходзі-

(Працяг на стар. 4)

# НА мяжы

## АБ ПРАМІНАННІ (VII)

Істоту праміпання ўспрымаю і разумею найглыбей, калі трапляю на могілкі. Ходзячы ад магілы да магілы, прыглядаюся да надпісаў і эпітафій, у якіх выступаюць не толькі інфармацыі аб гадах жыцця памёршых, але і праяўляюцца некаторыя сцвярджэнні філасофскага тыпу. Якраз па могілках, прыглядаючыся да магіл, якія хаваюць астанкі блізкіх нам і зусім чужых людзей, разумеем лепш, чым у якой-небудзь іншай сітуацыі, што жыццё — з'ява часовая і кароткая, а смерць — з'ява вечная. У сувязі з гэтым глыбей разумеем, што рашуча замнога прысвячаем энэргіі, сілы, намаганняў, імкненняў таму, што кароткатрывалае, і замала таму, што вечнае.

І здаецца мне, што ў такой сітуацыі не мае значэння, ці мы верым ці не верым у пазагробнае жыццё. Аднак, асабліва тыя, хто верыць у пазагробнае існаванне і ў праявы канчатковай і поўнай справядлівасці, якая будзе прыменена да ўсіх памерніых у час страшнага суда, павінны зрабіць адпаведныя вывады адносна сваіх паводзін на гэтым свеце. На жаль, сустракаемся вельмі часта з фактамі, якія сведчаць аб тым, што веруючыя не надта бяруць пад увагу такую перспектыву. Калі б сапраўды бралі, дык чалавечыя характары, а таксама адносіны паміж людзьмі вельмі хутка змяніліся б, становячыся ўсё лепшымі і лепшымі. На жаль, не бачым ніякіх сімптомаў, якія сведчылі б аб такой высакароднай эвалюцыі грамадстваў і ўсяго чалавецтва.

Як вядома, і маралісты, і паэты, і настаўнікі, і духоўныя вельмі часта звяртаюцца да людзей, заахвочваючы іх да змены паводзін, мыслення, спосабу жыцця. І што вынікае з гэтага? Нічога! Вядома, што людзі жывуць усё лепш. Аднак, сказанае адносіцца толькі да матэрыяльнага аспекту жыцця і ў ніякім выпадку да духоўнага.

Выступае недарэчлівая праўдзівасць, якая зводзіцца да таго, што чым лепш жывем матэрыяльна, тым горш жывем духоўна.

Як вядома, у апошні час радыкальна ўзрасло зацікаўленне нашага грамадства рэлігіяй. Сёння прыходзіць у касцёлы і цэрквы намнога больш людзей, чым прыходзіла дзесяць ці пятнаццаць гадоў таму назад. Магло б здавацца, што калі так узрасла колькасць людзей, якія пацягнуліся да рэлігіі, дык узрасце і ўплыў рэлігійных догмаў і прынцыпаў на чалавечыя характары, што зменшацца такія з'явы, як зладзейства, крывадушлівасць, эгаізм, карысталюбівасць, развал сям'і, непраўдамоўнасць і г.д. На жаль, жыццё дае прыклады, якія сведчаць аб чымсьці зусім адваротным. На працягу апошніх гадоў не толькі не паменшылася, але павялічылася колькасць паталагічных з'яў і злачынстваў. Датычаць яны людзей розных станаў і прафесіяў, не выключаючы паэтаў і духоўных.

Усё гэта сведчыць аб бездапаможнасці чалавека ў адносінах да самога сябе, аб незвычайнай сіле зла і слабасці дабра, аб слепаце кожнага з нас, аб нашай нядзольнасці зразумець, што незалежна ад таго, ці верым ці не верым у прадаўжэнне чалавечага існавання пасля смерці, павінны мы паступаць так, каб наш дабрабыт не абапіраўся на бядзе іншых, каб нашы ўдачы не азначалі няўдач другіх. А што датычыцца часу і праміпання, дык усё зводзіцца ў істоце да таго, што і час і праміпанне гэта проста кожны з нас.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 1)

# ПАКЛОН ДАШАМ

Культурная ніва. Неверагодна багатым сінтэзам культурнай дзейнасці быў гэты „беларускі вечар" у вёсцы. Спраўнай арганізацыі можна ў Дашоў павучыцца. А таксама згоды і ўмеласці працаваць для накрэсленай мэты. Відавочную голым вокам згоднасць вёскі ў працы я б найперш назвала, як кажуць, „на лініі" жаночы мастацкі калектыў — школа.

Сямёра жанчын спявае ў калектыве, ужо сем гадоў існуючым. І за гэты час стаў калектыў магутнай сілай, якая ўзмацняе і развівае ўсе найлепшыя рысы беларускага характару вёскі і садзейнічае культурнаму і нацыянальнаму яе росту, умацаванню карэнняў і, не будзем баяцца вялікіх слоў, гонару людзей. Сем згодных, здольных галасоў і гарачых сэрцаў упартасцю сваёй пераарганізавалі вёску, ўвялі яе на вышэйшую ступень. Даволі цяпер недзе сказаць: „Дашы", каб людзі адгукнуліся: „О, ведаем, там калектыў, бабы файна спяваюць".

Сапраўды, спяваюць бабы цудоўна, з нейкай, самімі выпрацаванай, а можа проста натуральнай, прыроджанай, арыгінальнасцю і грацыяй. Так свабодна, размашыста і велічна! Такая яна, беларуская (і шырэй — усходнеславянская) песня. У дашоўскіх жанчынах яна знайшла верных прадаўжальнікаў сваёй неўмірučай прыгажосці.

„Беларускі вечар" у Дашах мог адбыцца дзякуючы школе. Гэта другі важны фактар культурнага жыцця вёскі, без якога Дашы не былі б Дашамі, або не былі б такімі беларускімі Дашамі. Выхаваўча-асветная роля школы тут праўляецца ўсебакова таксама сярод дарослых жыхароў. Школа з'яўляецца ўстановай з вялікім аўтарытэтам. Яна інспіруе і арганізуе дзяцей і дарослых на шырокую грамадска-культурную працу.

з Дашоў і мужчынскі з Рыбалаў. Спявалі ўперамешку па дзве песні. Каляровы карагод! Вялікая раўнавага! Абодва калектывы на высокім узроўні. Песню рускую „Этот день победы" рыбалаўскі калектыў мусіў бісаваць. А ўжо абсалютна пераможна гэтая песня прагучала, калі ў фінале вечара калектывы спалучыліся і гэтую песню заспявалі разам. А разам з калектывамі спявала ўся запоўненая зала святліцы, з асаблівай жа моцаю дапамагалі хору дзеці і моладзь, яны добра ведалі словы песні. Такія людзі ў Дашах!

Як Рыбалы прыехалі ў Дашы? У рамках знаёмства і дружбы, якія навязаліся паміж калектывамі ў час цэнтральнага агляду беларускай песні, дашоўскі калектыў запрасіў рыбалаўскі прыехаць да іх на вечар. І тут сустрэліся два калектывы — сабе раўня! А калі пад гукі акардэона Пятра Нявінскага дзевяць мужчынскіх галасоў грымнулі з усёй моцай, зала ахнула і як бы анямела.

Рыбалаўскі мужчынскі калектыў гэта важная з'ява на мастацкай карце нашых спяваючых калектываў. Пасля „Дубочкаў" гэта другі чыста мужчынскі калектыў, ужо слаўны — каб жыў і спяваў як найдаўжэй!

Дашы, запрашаючы Рыбалы, мелі на ўвазе апрача іх высокага мастацтва, яшчэ адно. Аб гэтым сказала Ольга Сельвановіч ужо пасля канцэрта. Менавіта, дашоўскія жанчыны ведаюць здольнасці сваіх мужчын, якія аднак не далучаюцца чамусьці да калектыву (жанчыны мараць аб вялікім мешаным хоры ў вёсцы) і не прабуюць стварыць свой уласны мужчынскі калектыў. Жанчыны хацелі паказаць ім жывы прыклад. Здаецца ўражанне было добрае. Цяпер важна, каб знайшоўся хто моцны — будзь гэта музыкант, акампаніятар, ці проста арганізатар — які б павёў. Я асабіста веру ў невычэрпныя здольнасці жанчын з калектыву. Калі яны не зложаць рук, а возьмуцца за справу, то можам чакаць добрых навін. Бо ж Дашы ад пачатку і дагэтуль спяваюць самі, рэпетыруюць самі, падбіраюць песні самі, развучваюць самі. Робяць гэта дасканала, як бы пакончалі няведь якія курсы, хоць з велізарным коштам сіл і часу. Нехта сказаў, што перад выступленнем вось на гэтым „беларускім вечары" яны мелі спеўку да другой гадзіны ночы, а ўвогуле — раней як апоўначы летам са спевак ніколі не разыходзяцца. Кожная з вясковых жанчын мае працы вышэй галавы — гэта кожны ведае. І таму кожнага ўсхваляваў бы факт, што спявачкі ў Дашах сабраліся першыя, заўчасу былі на пасту. А на гэты вечар (ён мусіў да канца быць беларускім) яны дадаткова нарыхтавалі гасціну. І мы ў 11 гадзін ночы пачалі есці гарачы бігас з маладой капусты з каўбасою. А жанчыны ў сваіх беласнежных вышываных блузках і фартушках частавалі нас і спявалі зноў.



На беларускім вечары ў Дашах. Фота аўтара.

У сувязі з вечарам я хачу назваць прозвішчы толькі дзвюх настаўніц, якія разам з жаночым калектывам арганізавалі гэты вечар: Валянціна Дуда і Валянціна Андросюк. В. Андросюк — настаўніца беларускай мовы ў школе, выпускнік Варшаўскага універсітэта (беларускай філалогіі), старшыня 50-асабовага гуртка БГКТ у вёсцы. В. Дуда — настаўніца музыкі, здольны аніматар культурнай дзейнасці, унутрана багаты чалавек, з сатырычна-гумарыстычнай жылкай. Вяла яна вечар чысцейшай беларускай мовай, узбагачаючы яго „кавалкамі" ва ўласным удачным выкананні. Былі тут і вершы Кандрата Крапівы і ўласныя анекдоты, напрыклад, „Як мой бацька ў Кляшчэлях гандляваў". Прыдаўся б такі канферанс'е хоць на некаторых цэнтральных мерапрыемствах БГКТ.

„Беларускі вечар" у Дашах складаўся як бы з трох частак. Найперш выступілі школьнікі. Спявалі, дэкламавалі — паказалі багатую праграму. На канец заспявалі поўныя вясёлага гумару, дасціпныя „частушкі" аўтарства дзвюх Валяў — настаўніц. Частушкі былі аб людзях і з'явах іх вёскі. Вельмі ўсім спадабаліся і варта іх на будучы год заспяваць у конкурсе.

У далейшым выступілі: жаночы калектыў

Зоя Кердалевіч, Валя Міцэвіч, Ніна Міцэвіч, Мар'я Рошчанка, Ольга Сельвановіч, Надзя Рошчанка яшчэ і яшчэ ўзбагачалі нас гукамі сваіх песень, з якіх найпрыгажэйшай была „Таполя".

**Вера Леўчук**

П.С. У Дашах помняць Янку Крупу, які стаяў ля пачатку іхняга калектыву. Прасілі вельмі папрасіць Янку прыехаць і цяпер, памагчы ім зноў.

# ПЯЦЬ ДЗЁН У ГАСЦІНЕ

## АСТРАВЕЧЧЫНА

Астравец — невялічкае мястэчка ў самым паўночным куточку Гродзеншчыны. Шаша доўга віецца сярод ляснога масіву і амаль адразу ўскоквае на прасторную галоўную плошчу гэтага раённага цэнтра. Вакол яе размясціліся ўсе асноўныя раённыя інстанцыі і ўстановы. Цішыня. Хоць дзень пайшоў на спад, але спёка ўзмацняецца. У райкоме партыі гасцінныя гаспадары жартуюць: „Хоць мы і самыя паўночныя, але горача ў нас як у Афрыцы" і прапануюць нам некалькі гатункаў мінеральнай вады: грузінскую „Баржомі", украінскую „Міргарадскую", беларускую „Мінскую", а ў вазах — стусы залацістых... апельсінаў, абсыпаных „крыжачкамі" і іншымі шакаладнымі цукеркамі са славутай мінскай „Камунаркі".

Не скажу, што мы занадта скромнічалі ды саромеліся частавацца. Ужо нават з-за таго, што ў Польшчы апельсіны і шакалады — вялікі дэлікатэс ды рарытас, а ў Беларусі і Літве яны ляжаць стусамі ў кожнай спажывецкай краме. І як тут не жартаваць, што субтропікі пануюць на поўначы Гродзеншчыны? На нашу заўвагу, што раённаму начальству тут жывецца надта ж спакойна, бо да вышэйшых уладаў далёка, астравечане заўважаюць: „Далёка, то далёка, але самалёт лятае з Гродна штодзень, ды і з Мінска блізка. А найважнейшае: жыццё не дае спакою. Яно — самы няўсыпны наглядчык, каб ніхто не спаў у шапку".

І зноў, падобна як у Шчучыне, першы сакратар райкома — тут элегантная маладая жанчына — засыпае нас інфармацыяй пра раён — поўны даведнік лікаў, фактаў, праблем. Найважнейшае заданне: зраўняць варункі жыцця вяскоўцаў з гараджанамі, бо толькі ў такіх умовах маладыя людзі не будуць уцякаць з вёсак у гарады. Цяпер жа раён хутка старэецца: на 31 тысячу ўсяго насельніцтва ў ім аж 8 тысяч чалавек пенсіянераў, а ў 1984 г. нарадзілася ўсяго 280 дзяцей. Праўда, узровень сельскай вытворчасці тут не благі: у сярэднім 28 цэнтнераў з аднаго гектара збожжа (ёсць таксама брыгады, у якіх збіраюць на 43 ц/га), а надоі па 3,5 тысячы літраў ад адной каровы (на некаторых фермах па 4 тысячы літраў). Але прамысловасць невялікая — малачарні, лесапільні, млыны, прадпрыемствы па вырабу будаўнічых матэрыялаў. І таму, каб моладзь не выязджала, у кожным калгасе ці саўгасе развіваюцца розныя промыслы, на якіх знаходзяць занятак тыя, хто не хоча працаваць у сельскай гаспадарцы. Маладым сем'ям гарантуецца не толькі жыллё і праца, але і створаны варункі для развівання асабістых здольнасцей і зацікаўленняў: працуе



Помнік вызваліцелям г. Астраўца.

густая сетка бібліятэк, дзейнічае народны калектыў „Вясёлка", а драматычнаму калектыву прысвоена ганаровае званне „народны". Калгасы і саўгасы часта арганізуюць выезды на спектаклі і канцэрты ў Мінск, Вільнюс, Гродна, у мясцовыя клубы нярэдка завітваюць артысты з вялікіх гарадоў, нават з Масквы і Ленінграда. У раёне нядрэнна стаіць спорт: асабліва моцны хакей.

Гэтае імкненне наблізіць узровень жыцця ў вёсцы да гарадскога відаць і па медыцынскаму абслугоўванню насельніцтва. З вялікай раённай бальніцай нас знаёміць намеснік яе дырэктара, лекар-тэрапеўт Валянцін Ігнацьевіч Тачоны. Нашай Ані ён уручае букет ірдзістых ружаў, а з сяброўскіх жартаў высвятляецца, што разам з медыцынай яму засланяюць свет якраз... кветкі, бо доктар увесь свой вольны час аддае вырошчванню якраз кветак. Ад яго даведваемся, што ў раёне працуе 55 лекараў з вышэйшай адукацыяй, у бальніцах 390 ложак, з таго ў раёне бальніцы працуе 39 лекараў і 200 чалавек сярэдняга медыцынскага персаналу, у ёй 250 ложак. Бальніца не новая, але добра ўтрыманая і належна забяспечана апаратурай і абсталяваннем. Наш праваднік не без гонару падкрэслівае, што ўжо больш за 25 год у бальніцы не было здарэння, каб пры родах памерла парадзіха, смяротнасць нованароджаных таксама вельмі нізкая. Зубныя лекары пераходзяць на ўстаўлянне фарфоравых пратэзаў. Наогул у раёне лекары працуюць вельмі ахвярна. Штогод дыспансерызацыяй ахопліваюць 98,9% усяго насельніцтва, і астравецкая раённая бальніца займае I месца ў СССР па ўзроўню і выніках працы з насельніцтвам.

У калгасе імя Чапаева ў Варнянах мы бачым на жывых прыкладах, як ажыццяўляюцца ў практыцы намаганні стварыць аптымальныя варункі жыцця вяскоўцам. З размовы са старшынёй Уладзімірам Паўлавічам Пострашам, які свой працоўны шлях пачынаў трактарыстам, завочна закончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут і вось ужо 18 год нязменна кіруе

(Працяг на стар. 4)

# ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## БЫЛА Я ЖВАВАЯ БАБУЛЬКА

Чэрвень. Нясмелае сонца выглядае з-за хмар. Трывожныя дні экзаменаў. На прыпынку каля кіёска поўна студэнтаў. З-пад лесу з'язджаюць з грукатам і піскам аўтобусы.

Недалёка ад будынка гуманітарнага факультэта, на вуліцы Свярковай, знаходзіцца Дом апекі і Дом малых дзяцей. Вакол цішыня. Ліставы лес з выхаджанымі сцежкамі, вуліца Вясенняя. Ля вуліцы Свярковай — ніводнай елачкі, стаіць густою сцяною тонкастволая грабіна. Выйдзеш з халоднага ценю на скрыжаванне дарог, а перад табою Беласток: спачатку прыгорбленыя, раскірэчаныя хаткі вуліцы Вейскай, салідныя асабнякі, а далей бліскацяць вокнамі блокі „Бэма" і Дамы студэнта на Звярынецкай.

Каля кіёска мітусня. Стаіць бабулька ў клятчатай спадніцы, шэрым світарку, у хустцы, завязанай пад барадою, з палачкай, сінім вузялком у руках, худзенькая, маленькая, энергічная, рашучая. Каля яе жанчына ў сінім фартуху — крычыць, пераконвае, варочае яе назад:

— Гэтак жа нельга. Пані Мальвіна, хадземце назад. Трэба сказаць лекару, санітарцы, дырэктару...

— А я з імі больш гаварыць не буду. Даволі нагаварылася. Еду, і ўсё.

Пад'ехаў аўтобус. Бабулька пачала дапытвацца, як даехаць на аўтобусную станцыю.

— Не бойцеся, — кажу. — Я вас завязу.

Бабулька супакоілася. Села, палажыла на прыпол свой вузялок, прытуліла сваю палачку. Неспакойна паглядала ў вакно. Выйшлі мы за рэчкай, проста ў натоўп. Бабулька разгублена аглянулася на мяне.

— Не бойцеся. Давайце ваш багаж. Памаленьку пойдзем.

*

— У сакавіку мяне забралі. Многа добрага з вопраткі не ўзяла, усё ў хаце пакінула. Завёз мяне Генік у Беласток. Адзелі мяне ў іхняе, і цяпер так і хаджу. Усё чыстае, хаця і старое, але што ж, мне не падабаецца. Ці стары чалавек павінен лазіць, бы тая папанча? На свята ці ў нядзельку дадуць сукенку, а тая доўгая, пыл замятае, шырачэзная, бронтаецца. Хацела падлажыць, падрэзаць, паправіць — шыць жа добра ўмею, ды накрычалі на мяне. У рукі іголку і нажніцы баяцца даць, ці што? Усё дагледжваюць, вядома, трэба пільнаваць старэчаў. Усё якіясь камісіі, абходы. Заглядаюць у кожную шафачку, усё пераварнуць. Дасі, бывала, каму грошай, булачку табе салодкую прынясе. Калі адразу не з'ясі, то другі раз не пакаштуеш. З шафачкі выкінуць, каб не заплеснела. Вядома, парадак мусіць быць, але ж ці гэтак можна мучыць старога чалавека? Нікога ў цябе няма, то і нічога свайго мець не будзеш? Нібыта ёсць у цябе свой пакойчык, свой ложак, на якім спіш — і ўсё. У тых, што раней

(Працяг на стар. 7)

# „ГОМА САПІЕНС"

4

Часта дзядзькоў успамінаю.

Юравец і Якуб, калі я спяшаўся ў школу, а яны ехалі фурманкамі, ніколі не прапанавалі залезці ў воз ды пад'ехаць. Была паміж імі розніца. Каб я сам пачапіўся на падворку, Юравец нават не азірнуўся б, а грыбавец зараз жа выцяў мяне пугай.

Крыўдна на іх сёння. Адной з прычын шматгадовай адсталасці свайго народа ў мінулым лічу душэўную глухату пэўнай часткі маіх продкаў і стараюся зразумець, адкуль такое бярэцца. З дзядзькамі часта нібы гутару, сваруся і наперад не ведаю, што адкажа адзін, што — другі.

Напрыклад, крочым мы раніцай сцежачкай за вёскай, і я пытаюся ў Абрамовіча — ці любіць ён немцаў.

— За што ж іх любіць?! — бурчыць стары.

— Тады навошта гэтак стараецеся для іх?

Чалавек глядзіць на мяне з нямым здзіўленнем, а ў яго вачах выразна чытаю:

„Мяняем рэйкі ды забіваем кастылі ў шпалы, пры чым тут немцы? і ў рускіх е каляя ды егдзяць паязды!"

Давесці чалавеку, што сваёй шчырасцю дапамагае нацыстам у сілу ўвайсці? Ён цалкам не здольны ўспрымаць абстрактныя развважанні. Каб лепш упэўніцца ў гэтым, прыстаю да дзядзькі з іншага боку.

— У вашы гады, дзядзька Якуб, хадзіць такі кавалак дарогі — цяжкавата. Каму-каму, а вам трэ мець ровар. О, чулі? Парэмскі Юляк учора напіўся самагонкі і свой — пагрхатаў! Каб вы яго мелі, напэўна, бераглі б?

— Не купіў да вайны, то цяпер — фігу купіш.

— Але, каб раптам вам хто прадаў, ці таксама ламалі б?

— Дзе ты яго дастанеш зара — немцы ўсе да свайго войска забралі.

— А каб досталі?

— Э-э, ніхто зара табе не прадасць — ні за якія грошы. Усе равэры пахавалі і так трымаці-муць да самага канца вайны. Гэта — муравана.

Малога хлопчыка маці ўзялася вучыць рахунку:

„Міша, я табе дала тры яблыкі, і ты адно з'еў. Колькі, сынок, засталося б?"

„Ты мне іх не давала!"

„Мішанька, паслухай! Мы, сыночак, дамовіліся, што я табе дала іх і ты адно..."

„Ма-ам, я добра памятаю — ніякіх яблык ты не давала!"

Аляксей Карпюк

(Працяг са стар. 1)




ла з поля, дзеці крычалі: мама, хлеба! Мама ішла на гару па хлеб, вярталася заплаканая. Казала: Божа мой, Божа! Не маю дзе схаваць хлеб. У хаце не пакіну, бо дзеці з'ядуць, на гары каты, кругом абгрызлі. Шкада мне было маму і думала я сабе: больш гэтага не зраблю. Але рабіла тое самае, бо не магла ўстрымацца, так хацелася хлеба і сала.

Ды распісалася я тут замнога, прабачце. Школы я не маю, але школа жыцця ў мяне вельмі багатая. Я сама ад 12 гадоў жыла самастойна. Не была дзіцём і не была маладой.

З вялікаю пашанаю і ўдзячнасцю да цябе, „Ніва“,

**Надзя Касабук**

*

Дарагая „Ніва“! Я хачу з вамі падзяліцца сваім поглядам на тэму: якая „Ніва“ і для каго яна.

Можа найперш коратка аб сабе. Мне 20 год, я закончыў сярэднюю школу, цяпер працую ў Сямяцічах. Ад нейкага часу стаў я пастаянным чытачом „Нівы“. Наш тыднёвік мне нават і падабаецца, ды думаю, што павінна ў ім быць адна старонка для старэйшай моладзі. У маім адчуванні, а думаю, што не толькі ў маім, трэба змяніць тактыку, каб газета наша стала сапраўды газетай усіх беларусаў, а не толькі малога працэнта, які цяпер чытае яе. Дам прыклад з Сямяціч і ваколіц, дзе не так мала беларусаў. Амаль усе яны не вывучалі беларускай мовы, а ў хаце, школе і на вуліцы гавораць па-польску.

Думаю, што каб здабыць чытачоў у гэтым раёне, добра было б хаця на адной старонцы пісаць па-польску. Мне самому адпавядае пісанне па-нашаму, але трэба зразумець і тых, хто беларускай мовы не вывучаў, а такіх жа не мала і ў іншых раёнах. Можа, калі прачытаюць цікавыя артыкулы па-польску, то паспрабуюць і па-беларуску.

І яшчэ адна справа: замала пішаце аб нашым праваслаўі, яго культуры і традыцыях, якія так моцна звязаны з нашым народам.

З паважаннем, ваш пастаянны чытач **Андрэй Мартыновіч**

*

У сувязі з пытаннем адносна зместу „Нівы“, прапаную: даваць поўныя звесткі аб жыцці і дзейнасці беларусаў у межах ПНР. Падаваць гістарычна-геаграфічныя звесткі аб беларусах у БССР, а таксама аб іх дасягненнях у культуры, асвеце, літаратуры і мастацтве. Інфармаваць аб гаспадарчых і прамысловых дасягненнях БССР і Польшчы. Рабіць палітычныя агляды. Пісаць аб моладзі, улічваючы цяперашні светапогляд. Загадзя інфармаваць аб планаваных і арганізаваных Беларускім таварыствам мерапрыемствах.

**К. Сідаровіч**

## ПУСТАТА

Ёсць вельмі разумная прымаўка: ніхто горш не зробіць, як сам сабе. У 24 нумары „Нівы“ Аўрора напісала артыкул п.з. „Будзь кім хочаш, толькі не беларусам“. Спачатку нават і я

(Працяг на стар. 6)



Памятны здымак нашай групы з савецкімі сябрамі з Астраўца на фоне раённай бальніцы.




(Працяг са стар. 3)

аграмадным калгасам, мы даведваемся, што цяпер людзі ў калгасах зарабляюць вялікія грошы. Сярэдні заробак калгасніка складае 220 рублёў у месяц, прытым даярка зарабляе 250 рублёў, пастухі і абслугоўваючыя абсталяванні на свінафермах бяруць па 270 рублёў. Да гэтага атрымоўваюць дадатковыя прэміі і ўзнагароды за вынікі працы. Таксама высокія заробкі ў спецыялістаў і кіраўніка гаспадаркі: галоўны заатэхнік атрымлівае 340 рублёў у месяц і 1100 рублёў гадавой прэміі за вынікі, старшыня калгаса мае 400 рублёў у месяц і 2200 руб. гадавой прэміі. Калі ўлічыць, што сёння вартасць 1 рубля складае каля 100 злотых, то можам сабе палічыць, якія грошы трапляюць у кішэні беларускіх хлебаробаў. Таму няма часу дзівавацца, што ў Гродне ці Мінску ў асяроддзі студэнцкай моладзі найлепш абяспечаны дзяўчаты і юнакі — дзеці калгаснікаў, механізатараў, даярак, паляводаў, аграномаў, брыгадзіраў, старшынь. У цяперашняй беларускай вёсцы найбольшым спросам карыстаюцца легкавыя машыны, элегантная мэбля, модная адзежа. Тое відаць і па людзях на вясковай вуліцы.

З думкай пра сённяшні і заўтрашні дзень беларускай вёскі працуе ў рэспубліцы таксама школьніцтва. Мы наведалі Варнянскі міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат. Гэта своеасаблівая кузня кадраў для мясцовага калгаса па 7 спецыяльнасцях: трактарыст, прадавец, краўчыха, шафёр, кулінар, малодшы лесавод, аператар машыннага даення. Яе вучні — абсальвенты дзесяцігодкі, настаўнікі — спецыялісты з вышэйшай адукацыяй, большасць якіх працуе ў розных службах у мясцовым калгасе, школа — добра абсталяваны навуковымі дапаможнікамі (апаратурай, машынамі, аўдыёвізуальнымі сродкамі) класы-кабінеты. На месцы інтэрнат для тых, хто мае далёка да хаты. Моладзь, як заўважае дырэктар кабінета Іосіф Эдуардавіч Доўнар, ахвотна наведвае заняткі і авалодвае прафесіяй. „Ці з думкай застацца ў вёсцы?“ — пытаюся. „Па-рознаму. Многія хочуць астацца і астаюцца. Іншыя робяць гэта з разлікам: калі не паступлю ў вышэйшую школу, буду працаваць у сваёй вёсцы. Ёсць і такія, якія хочуць навучыцца добра шыць, гатаваць, пячы, вадзіць машыну“. Наведваем выстаўку кравецкага класа: як на вучняў — зусім прыстойныя сукенкі, нагавіцы, плашчы. Дырэктару прыемна слухаць нашыя пахвалы, ён — малады педагог з 7-гадовым стажам, выхаванак гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.Назіраю за ім і думаю: наша Alma Mater надалей спаўняе высакародную ролю на Беларусі. У часы мае навукі ў Беларускім універсітэце таксама ён рыхтаваў кадры для працы ў глыбінцы, працы над падставай грамадства, і яго абсальвенты не цураліся вёскі.

Дзялюся гэтай заўвагай з арганізацыйным сакратаром Астравецкага райкома КПБ Іванам Юльянавічам Кардашом — энергічным маладым чалавекам родам з-пад Свіслачы, які некалькі разоў быў на Беласточчыне. Ён пацвярджае маё меркаванне і дадае, што ў школах Астравеччыны шмат робіцца для абуджэння ў моладзі зацікаўлення сваёй роднай традыцыяй, мясцовай народнай творчасцю, тутэйшым народным мас-

(Працяг са стар. 1)

# У СЯМЯЦІЦКІМ „ГОРТЭКСЕ“

* ✲ *

Прадпрыемства вырасла на чыстым корані ў двух кіламетрах за горадам, на пясочным узгорку, сярод лесу. Цяпер там круглыя суткі, на трох зменах, працуе звыш адной тысячы рабочых.

Наведаў я сямяціцкі „Гортэкс“ у апошніх днях чэрвеня, калі пачаўся ўжо цікавы перыяд у пастаўцы трускалак.

Да нядаўна мала хто тут ведаў аб існаванні гэтай смачнай ягады. А цяпер трускалкі і парэчкі ўжо назаўсёды задамавіліся ў сельскагаспадарчым краявідзе падсямяціцкіх вёсак. Мала які селянін не супрацоўнічае тут з „Гортэксам“. У каго толькі ёсць каму палоць і збіраць трускалкі, дык абавязкова наладжвае нават паўгектаровыя і гектаровыя плантацыі. Гэта даволі цяжкі занятак, а сама ягада вельмі няўстойлівая на розныя хваробы, але ў замен дае яна вялікі прыбытак. Таксама і з парэчкамі, хаця гэтыя ягады яшчэ болей капрызныя і хутчэй паддаюцца адмоўным уплывам надвор'я, ды хопіць на дзеньдва спазніцца з яе ўборкай — і ўжо цэлы даход пайшоў кату пад хвост.

Нягледзячы на ўсе гэтыя нявыгады, сямяціцкае прадпрыемства па апрацоўцы фруктаў і агародніны стала вялікім стымулятарам развіцця садаводства ва ўсходніх раёнах нашай краіны.

* ✲ *

Перад варотамі прадпрыемства ў доўгай чарзе стаялі шматтонныя грузавыя аўтамабілі. Ноччу яны даставілі трускалкі са скупачных пунктаў і цяпер чакалі, каб забраць упакоўку, значыць, спецыяльныя „трускалковыя“ кошычкі, якія называюць у нас „лубянкамі“. Гляджу на рэгістрацыйныя табліцы. Найбольш аўтамабіляў, вядома, з нашага Беластоцкага ваяводства, але ёсць і з многіх суседніх ваяводстваў, нават з наваколля Варшавы.

* ✲ *

Ад чэрвеня мінулага года дырэктарам сямяціцкага „Гортэкса“ з'яўляецца мгр інж. Ян Несцяровіч. На жаль, не пашчаслівілася мне на сустрэчы з ім.

— Шкада, што вы не папярэдзілі мяне аб сваім візіце, трэба было дамовіцца, — заявіў дырэктар пасля прывітання. — Цяпер у мяне вельмі важная нарада, я склікаў працаўнікоў і яны не могуць чакаць. Але не толькі я адзін у нашым „Гортэксе“, — ён прыязна ўсміхнуўся, звяртаючы назад мой журналісцкі білет. — Зараз перадам вас пад апеку кагосьці таксама кампетэнтнага...

І гэтакім чынам трапіў я ў рукі мгр інж. Лявона Мусько, які

(Працяг са стар. 4)



сам быў захоплены артыкулам, гладка напісаны. Але потым пераканаўся, што гэта ўсё не так, як напісала Аўрора. Яна нідзе, ні ў якім цягніку не чула размовы, сведкам якой нібы яна была і горыч сэрца прымусіла яе апісаць, якімі бываюць беларусы. Усё яна выдумала, седзячы за сталом. Фантазія ахапіла яе і ўсё яна пераліла на паперу, ведаючы, што тая ўсё вытрымае. Тут чапляецца і да бацюшкі ў царкве ў Беластоку, які казанне гаворыць па-польску. Не ведаю, як ёсць у сапраўднасці, але калі ў выключных выпадках (напрыклад, нейкая дэлегацыя прыедзе ў царкву) бацюшка скажа пропаведзь па-польску, дык што гэта — грэх? У Бога ўсе народы, нацыі і мовы аднолькавыя. А польская і беларуская мовы цесна звязаны з сабою, бо гэта славянскія мовы.

Напісанае Аўрораю — фальшывае і тэндэнцыйнае. Няхай не гаворыць, што праўдзівых беларусаў, якія даражаць сваёю моваю, знойдзецца толькі 2 тысячы. У адной нашай гміне Дубічы Царкоўныя праўдзівых беларусаў знойдзецца нямала. Хто ведае ці не дзве тысячы, а мо і больш. Усе мы гутарым па-беларуску ўсюды, не саромімся і не цураемся сваёй мовы і нашы дзеці вывучаюць родную мову ў школе, а многія жыхары выпісваюць тыднёвік „Ніву". А мы ж бадай не выключэнне?

Вельмі брыдка і некультурна ганіць свой народ і лічыць яго народам нейкай другой катэгорыі.

У тым жа нумары „Нівы" Аўрора апублікавала верш „Мой бог". Як гэта рэдакцыя магла прапусціць такі пусты верш? Бадай горшага „твора" рэдакцыя не магла знайсці ў сябе. Што падумаюць аб нас усіх, бо ж „Ніва" вандруе і за мяжу. Хто вырашыў і для якой мэты надрукаваць такое глупства?

**Для Аўроры Бог нябесны вельмі далёка. А калі далёка, дык яна не мае патрэбы ў яго верыць і знайшла зямнога і яму пакланяецца. Як у часы язычаства!**

**Аўрора раўняе чалавека — Алеся Барскага з Богам і піша, што Барскі церпіць так, як Ісус Хрыстос. Якое пустаслоўе! І да чаго здольны чалавек? Такога яшчэ не было!**

**Я сам, як і многія беларусы, ганарымся сваімі паэтамі, у тым ліку і Алесем Барскім, які сее роднае слова, як і іншыя. Але гэта звычайны чалавек, з той толькі розніцай, што ён вучоны і мае талент.** Але сёння, у XX стагоддзі такіх вучоных і паэтаў ёсць шмат, і не хопіць розуму нават усіх іх запомніць. Трэба быць вельмі адважным і нахабным, каб напісаць, што чалавек — Барскі церпіць, як Ісус Хрыстос. Ад чаго ж ён, Барскі, так церпіць? Мо дзе ў гасцях цярпеў, напрыклад, калі быў у Амерыцы і Англіі? Але здаецца і там яго ніхто не прыбіваў гваздзямі да крыжа? А мо Аўрора проста стараецца падлізацца да нашага паэта? Дык няхай гэта робіць, ды толькі не ў „Ніве".

**М. Панфілюк**



Лета над Нарвай.

Фота Я. Целушэцкага.

(Працяг са стар. 5)

# У СЯМЯЦІЦКІМ „ГОРТЭКСЕ"

яму кіраўнік Лявон Мусько. — Маем удосталь трускалак па 180 зл. І тут, на месцы, шмат бліжэй, без затрат на транспарце.

У час жалезных правіл сельскагаспадарчай рэформы даводзіцца лічыць кожную залатоўку.

— Але не думайце, — ён звяртаецца да мяне, — што мы абмяжоўваем абсяг свайго ўздзеяння. Нам пастаўляюць тавар з Ольштынскага, Скерневіцкага, а нават і з Радомскага ваяводстваў. Хаця праўда, што нам, як самастойнаму прадпрыемству, найвыгадней было б мець базу сыравіны як мага бліжэй Сямяціч.

* * *

Дагэтуль мне не давялося пабываць яшчэ на гэтакай аграмаднай фабрыцы, для якой сыравінай з'яўляецца смачная ягада. Мгр інж. Лявон Мусько ахвотна павёў мяне ў прасторныя рабочыя цэхі прадпрыемства.

Па дарозе, на рампе, сустрэлі мы групу маладзенькіх дзяўчат якія чамусьці са смехам пахаваліся ад майго рэпарцёрскага фотаапарата.

— Гэта дзяўчаты з гуфца працы, — паясніў мой праваднік. — У сезон, калі наша прадпрыемства пачынае працаваць на тры змены, нам не хапае рабочай сілы і гэты недахоп мы ўжо традыцыйна папаўняем, запрашаючы да сябе гуфец працы.

Цяпер і я зразумеў, чаму і каму служаць вялікія салдацкія палаткі, пастаўленыя на прасторным заводскім панадворку.

* * *

У вялікім цэху пуставата. Толькі ледзь чутна гамоняць нейкія агрэгаты. І прыемна пахне свежымі трускалкамі. Гадзіну таму назад распачалася тут другая змена.

— О, учора яшчэ знаходзілася тут столькі трускалак, што цяжка было прайсці! — заўважае Л. Мусько. А я з зацікаўленнем прыглядаюся да таго, што дзеецца тут з гэтай „сыравінай". Трускалкі з лубянак пападаюць пад штучны дождж і канвеерам праходзяць яны ў нейкія тунелі. Ля канвеера стаяць жанчыны і адбіраюць пашкоджаныя і гнілыя ягады. Рукі працуюць хутка і спрытна.

— Тут у нас — акорд, — паясняе адна з іх. — Як папрацуеш, так і маеш, а за промахі таксама адлічваюць. Ну, і да дванаццаці тысяч можна зарабіць...

Гэтыя жанчыны паходзяць з многіх навакольных вёсак. Некаторыя штодзённа даязджаюць на працу, карыстаючыся заводскім аўтобусам, іншыя, асабліва маладыя спецыялісты, абсталяваліся ўжо ў жылым пасёлку, які вырас па-суседску з прадпрыемствам.

Затым канвеер пераносіць ягады ў халодны адсек фабрыкі. Заглядаем і туды. На дварэ лета, чэрвень, а тут людзі апрануты, як у люты мароз. І не без прычыны. Хутка я сам адчуў гэта на сабе. А яшчэ халадней там, дзе трускалка ў лічаныя мінуты замярзае на камень. Упакоўваюць яе ў папяровыя мяшкі па 20 кілаграмаў і адпраўляюць на склад.

— Пасля далейшай апрацоўкі, — паясняе інж. Лявон Мусько, — наш тавар паедзе, між іншым, у Англію, ЗША, Канаду і ў Савецкі Саюз.

Так, сямяціцкі „Гортэкс", хаця яшчэ малады па ўзросту, але ўжо паспеў праславіцца ў Польшчы і за яе межамі. Ён цяпер з'яўляецца вядучым прадпрыемствам у прамыслова-вытворчым трэсце „Гортэкс".

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



# І МОЙ БРАТ

Прыселі мы на лавачцы за царквою. Староста Ян Пылкоўскі папрасіў у кампанію свайго сябра, Аляксея Самасюка з Падваркаў.

— Гэта ён галоўным чынам апякуецца магіламі савецкіх воінаў, пахаваных тут, на Пяценцы, — паясніў староста. Я прыглядзеўся да старэйшага ўжо селяніна, якому суровае жыццё ўсе нягоды яго лёсу выпісала на твары і замацавала ў глыбокіх маршчынах.

— Ат, адразу апякуецца! — адмахнуўся дзядзька Аляксей. — То ж гэта звычайная справа, каб жывы чалавек не забываў аб мёртвых!

Яго сябры салідарна паківалі галовамі, пацвярджаючы меркаванні дзядзькі Аляксея, які прадаўжаў:

— Я ж тут нічога асаблівага не зрабіў. Проста адна сям'я, — ён назваў яе прозвішча, якое я не запісаў, — будавала на магіле свайго суродзіча новы сучасны помнік. Стары бетонны нагробнік, гэтую раму, якая абмяжоўвае магілу, яны звычайна выкінулі. Я папрасіў сваіх сяброў, тутэйшых сялян, і мы супольна, калі памятаю, дык ушасцярых, занеслі гэты нагробнік на забытую і ўжо амаль растаптаную магілу савецкага салдата.

— Ён і крыж жалезны ўстанавіў на гэтай магіле! — дакінуў яшчэ адзін селянін, які далучыўся да нашай кампаніі.

— Ну так, гэта праўда, — як бы не хочучы, прызнаўся Аляксей Самасюк. — Бо крыўдна было глядзець на гэты салдацкі копчык без ніякіх знакаў, зарослы ўжо зеллем.

— Раней там быў драўляны слупок з чырвонаармейскай зоркай, — паясніў Ян Пылкоўскі. — Але ён згніў...

— То ж і мой родны брат таксама быў салдатам, — не зважаючы на словы свайго сябра, прадаўжаў думку Аляксей Самасюк. — Узялі яго ў Польскае Войска і загінуў ён недзе пад Будзішынам...

— Гэта цяпер у Нямецкай Дэмакратычнай Рэспубліцы, — паясніў я.

— І Бог яго ведае, ці мае ён дзе-лень сваю магілу, ці хто-колечы спыніцца над ёю, каб сказаць нейкую малітву за ўпакой душы яго... — Ён замоўк, адвярнуў у бок свой пастарэлы твар, як бы пасаромеўся слязы, якая закруцілася ў змучаных вачах. Мы таксама маўчалі і ў гэтай цішыні Аляксей Самасюк зноў адазваўся: — Праўда, я яму тут, на Пяценцы, помнік паставіў. Вунь ён, — паказаў за сябе, дзе стаяў шыкарны бетонны крыж з адшліфаванай памятнай дошкай, на якой напісана:

„Анатолий Антонович Самосюк, жил 32 лет. Погиб на войне 28.IV.1945 г. Мир праху твоему, дорогой сынок".

Я задумаўся над гэтым помнікам, які ўвекавечвае памяць нашага земляка, паклаўшага сваю галаву за свабоду нямецкага народа, ледзь на дзесяць дзён да заканчэння лютай вайны. **У памяці пераліваліся малюнкі гэтых крывавых баёў у лясах пад Будзішынам, якія давялося весці II Арміі Войска Польскага на шляху да Берліна. Гэта там загінуў наш друг, болей**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

(Працяг са стар. 3)

прышлі і яшчэ жывуць, ёсць і дыванчык свой ці шафа, якую дазволілі ім з хаты сваёй узяць. А ў мяне тут нічога свайго няма. Нават анучкі не кінулі на падлогу, слізгаюся толькі ў гэтых шлёпанцах па голых плітках. Усюды мур, халодны мур, пліткі таксама пакладзены на сыры цэмент — цягне холадам, круціць старыя косці, холадна. Усё праветрываюць, каб здаровае паветра было, праветрываюць, а адзетыя мы лёгка. Пакінула я ў Бярэзінах шарсцяныя світэры, шкарпэткі, а тут вось якая вопратка: што добрыя людзі падкінуць...

А ў мяне ўсё ў хаце... Я, як стаяла, паехала. Была я жвавая бабулька, а цяпер гляньце: меланхолія напала, пахудзела, нічога не хочацца, толькі ў вёску. Есці ўжо іхняга не магу: а то супы салоныя, катлеты кіслыя... Я са сваёй пенсіі ў вёсцы ела добра, хоць не многа: і на кавалак мяса, і на смятанку, і на салат зялёны хапіла. Усё падрыхтую, каб лёгка травілася каб здорава, многа вітамінак, малачко. І здаровая, вёрткая была. Даволі турботы — каб усё пры сабе і пры хворым невідучым зрабіць, але і нерваў ніякіх. Памёр ён, і так мне адной пуста стала... Думаю — лягчэй будзе ў Доме апекі. Нікога ж у мяне свайго няма. Толькі Генік, але ён з чужых, памагае мне, ён са сведкаў Яговы. Вось ён сёння меў у 8 па мяне прыехаць, узяць у водпуск. Але не прыехаў... А я чакаю...

— Прыедзе. Можа, што ў яго сям'і здарылася...?

— А я чакала! Раней дырэктар абяцаў мяне пусціць з Генікам у Бярэзіны, паглядзець на хату, але затрымаў маю пенсію, пашпарт, а сам узяў ды паехаў адпачываць. Санітаркам прыказаў мяне сцерагчы, пільнаваць. Як жа гэтак можна? Лепей мне было б у Харошчы, але мяне туды не хочуць узяць, я яшчэ не здзіцянела... Генік не прыехаў, а абяцаў. Тады я запакавала свой вузялок — нічога іхняга не ўзяла, усё сваё, з чым прыехала — кулясу, і еду ў Бярэзіны. Вельмі дзякуй, што ты мне памагла...

Мы напісалі картку Геніку: „Я вярнулася ў Бярэзіны. Прыедзьце да мяне. Вельмі крыўдна, што вы сёння да мяне не прыехалі. Мальвіна Бярозавік, Беласток, 21 чэрвеня 1985 г.“.

Да ад'езда аўтобуса асталося яшчэ паўгадзіны. Пані Мальвіна расказвала, сонейка прыпякала, заглядаючы ёй пад насупленую хустку.

— Ой, як добра, што ты пасядзела са мною. А то нуда ізжэрла б мяне...

Я ўжо збіралася несці картачку ў паштовую скрынку, як падыйшоў да нас малады мужчына.

— А вы ўжо тут? І білет у вас ужо ёсць?

Генік не мог раней прыехаць. Калі паявіўся ў Доме апекі, яму сказалі, што бабка ўцякла. Можа цяпер дзе блукае па Беластоку? Села ў аўтобус, „тройку“, можа дзе выйшла пасярэдзіне горада? Генік ехаў машынай і разглядаўся, ды бабулькі нідзе не было. „Прапажа“ знайшлася на аўтобуснай станцыі.

— Ой, як добра, што я, бедная, адзінокая, сустракаю добрых людзей! А то, бывала, і верыць перастанеш, што людзі памогуць, што цябе заўважаць...

Узрадаваная, ажыўленая бабулька падала свой вузялок маладому мужчыне, ён абняў яе і павёў.

**Міра Лукша**



Фота Віктара Волкава.

слаўны зямляк, Герой Савецкага Саюза, генерал Аляксандр Вашкевіч родам з Белавежы, там паклалі свае галовы многія іншыя нашы землякі, якія трапілі ў розныя дывізіі, асабліва ў V дывізію Другой Арміі Войска Польскага. Гэта на іх напаў гітлераўскі генерал Манштэйн са сваімі танкамі. Ён ад паўднёвага ўсходу імчаўся на дапамогу акружанаму і дагараючаму Берліну. Ды паламаў свае бронетанкавыя зубы на гарматах і гранатах польскіх салдат. Перамога каштавала, аднак, нямала ахвяр.

І яшчэ я падумаў, што ніколі невядома, як могуць папераплятацца чалавечыя лёсы. Вось і савецкі салдат, малодшы сяржант Аляксандр Баравік з беларускага горада Магілёва, і польскі салдат, радавы беларус з вёскі Подваркі, і генерал, таксама беларус — Аляксандр Вашкевіч. Штосьці агульнае спалучае іх лёс. Можа, гэтая заўчасная смерць за сваю Радзіму?

— Там яшчэ захаваліся дзве бляшаныя таблiцы, якія былі замацаваны на стоўбіках, што стаялі на гэтых салдацкіх магілах, — паінфармаваў нас стараста Пылкоўскі. Мне захацелася пабачыць гэтыя бляхі. Можа яны, падумаў я, адкрыюць нейкую тайну жыцця і смерці гэтых невядомых салдат.

Пайшлі мы супольна да салдацкіх магіл. Вёў нас Ян Пылкоўскі, за ім ішоў Аляксей Самасюк і яшчэ адзін селянін, а я —ззаду, за імі.

На гэтым кароткім шляху давялося сустракаць нам шматлікія сем'і, якія дружнымі грамадкамі абселі многія магілы сваіх блізкіх, памерлых суродзічаў і тут жа, ля магіл, частаваліся яны „чым хата багата“. Чагосьці такога не даводзілася мне бачыць. „Няўжо рэшткі колішніх беларускіх народных абрадаў, званых „дзедамі“, так красамоўна апісаных Адамам Міцкевічам?“ — мільганула ў мяне думка. Але на роздумы не аставалася часу. Мы спыніліся ля магілы савецкіх воінаў: старшага лейтэнанта Барыса Ермалаева і малодшага лейтэнанта Пятра Шаўчэнкі.

— А дзе тут будзе магіла сяржанта Аляксандра Баравіка? — звярнуўся я да сялян.

— Мусіць, гэтая, што па-суседску, — адказаў мне стараста Пылкоўскі, дастаючы з-за помніка два моцна заіржавелыя кускі звычайнай бляхі, на якіх хтосьці калісьці штосьці дбайна напісаў, вырыўшы працавіта гэты надпіс нейкай вострай прыладай, бадай салдацкім кінжалам. На адной таблічцы ўдалося мне адчытаць толькі тое, што яна адносіцца да лейтэнанта Пятра Шаўчэнкі Цімафеевіча, 1922 года нараджэння. На другой таблічцы асталіся толькі словы: „Старший лейтенант... Ермолаев... 1922 года...“.

Божа мой, у 1944 годзе, калі яны загінулі, было ім абодвум ледзь па 22 гады! І ўжо лейтэнанты! Значыць, толькі што пасля ваенных вучылішчаў. Яшчэ б ім жыць і жыць...

— Вы зайдзіце да Галены Грыгарук, — параіў мне Аляксей Самасюк. — Яна, магчыма, нешта больш раскажа вам аб гэтых салдатах.

— Дзе яе шукаць? — пацікавіўся я.

— У Подварках, першая хата за асяродкам здароўя, першая направа, такая ўжо прыстарэ-

(Працяг на стар. 8)

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Мне ў апошні час прысніліся вельмі кепскія сны. Першы сон — гэта была, можна сказаць, вандроўка па касцёлах. Увесь час я быццам бы была ў нейкім касцёле, але штораз у іншым, і не ведаю, ці я там малілася, ці проста аглядала гэтыя касцёлы як турыст. Але вось быццам я апынулася ў Кракаве, у Мар'яцкім касцёле. З аднаго боку, пры алтары, невялікая група людзей моліцца. З другога боку, насупраць — быццам нейкая сцэна, а пад ёю балота, багна, якая хвалюецца, пераліваецца, мне здаецца, што гэта рухаецца такі вялізны кракадзіл. І тады я заўважыла, што гэтую багну ствараюць людзі ў лахманах, быццам яны — гэта акцёры з тэатра Шайны якія часта іграюць падобныя сцэны. Прачнулася я з пачуццём стомленасці, страху і нейкага нясмаку.

А на другі дзень мне ізноў прыснілася святыня. На гэты раз мы з мужам і дачкой былі ў царкве. І вось я бачу, што мой муж, які ніколі нікуды не ходзіць маліцца, стаіць пры алтары на каленях і моліцца. Мы ж з дачкой выйшлі з царквы ў туалет. Туалет быў вясковы, прымітыўны, просты драўляны домік. Дачка ўвайшла туды, бо мела такую патрэбу, а я чакала яе. І вось раптам глянула я на свае ногі і ўбачыла, што пабрудзіла сабе ўвесь чаравік.

Што могуць абазначаць мае гэтыя брыдкія сны, Астроне? Растлумач, калі ласка.

**Аліна**

Аліна! Сны твае сапраўды кепскія. Тое, што ты сніш увесь час святыні, абазначае, што чакае цябе вялікі смутак. У першым сне была багна, гразь — твой смутак, бадай, будзе выкліканы нейкай хваробай або плёткамі. Да таго ж яшчэ з гэтай гразі паказаліся акцёры — нейкая фальш і залежнасць снуюцца вакол цябе.

Што датычыцца другога сну, дык гаворыць ён аб нейкім сумным, непрыемным падарожжы, якое адбудзецца ў цябе неўзабаве. Ты ж выйшла з царквы (сум) і запэцкала сабе чаравік (чаравік — хуткае падарожжа).

**Астрон**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

У № 2/1984 г. часопіса „Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego“, які выходзіць у Варшаве, звяртаем увагу на:

Początek odbudowy cerkwi Zwiastowania Bogarodzicy w Supraślu (s. 70—71).

Bp Sawa — Słowo podczas uroczystego przyjęcia z okazji poświęcenia kamienia węgielnego pod Świątynię Zwiastowania Najświętszej Bogarodzicy w Supraślu (s. 72—74).

Bp Sawa — Słowo przed poświęceniem kamienia węgielnego cerkwi w Supraślu (s. 74—78).

Ks. dr Serafin Żelaźniakowicz — Dialog prawosławno-rzymsko-katolicki. Trzecia plenarna sesja Komisji Mieszanej (s. 90—82).

**Пётр Байко**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Пэўныя нормы паводзін абавязвалі таксама хлопца. І хаця ён не быў абмежаваны ў такой ступені, як дзяўчына, то ўсё ж не павінен быў многа гаварыць, есці і піць.

Здараліся выпадкі, што бацька сватанай дзяўчыны ставіў на стол многа гарэлкі і, прагнучы даведацца, ці кандыдат на мужа яго дачкі не мае алкагольных схільнасцей, горача заахвочваў сватоў да піцця.

Калі хлопец пападаў у крайні стан ап'янення, адразу было відома, якая перспектыва чакае ў сямейным жыцці дзяўчыну. Калі крайняе ап'яненне хлопца станавілася фактам, бацькі дзяўчыны, як правіла, заяўлялі, што іх дачка не намерваецца выходзіць замуж, і спынялі працэс сватання.

Цікавыя ў гэтым аспекце прызнанні жыхаркі вёскі Лука Анны Садоўскай: „Было раз такое, прышлі да мане сваты і калі я ўкрадком раз глянула на маладого, то вон вэльмі спадабуўся. Ну, думаю, усё будзе ў парадку — іду замуж, каб толькі тато пасагу не пашкадавалі. Пасели ўсе за стол, пачалі цягнуць і мане. Але ж вано было відомо, што мне за стол ісці ні трэбо, лепей дзесь у кутkeві або пры пачы пастаяць, так я і зрабіла. Тым часам тато як ні бахнут на стол літэр водкі, а сваты ж таксамо прынеслі літроўку. Як жэ тато ні падлілі таму маладому, як ні падлілі, то вон, бідняжка, ні толькі пакаціўся на лаву, а пасля і на памост аж, не тут кажучы, і зарыгаўся.

А тато тады да маршалка: „Накладайце, хлонцы, шапкі на вушы і каб вашага духу тут не было!" І стары павалок маладого. І толькі мы іх і бачылі. От, табе я і выйшла замуж".

Калі, аднак, не наступалі ўскладненні падобнага роду, і калі маладому дзяўчына спадабалася, а ён спадабаўся яе бацькам, дык размова адбывалася ў прыемнай атмасферы. Цікава тое, што ў далейшым як гаспадары, так і госці ўжывалі алегарычны стыль. Яшчэ ў міжваенны перыяд ва ўсходняй Беласточчыне сваты вельмі часта ўжывалі формулу: „Наш бык да вашай цялушкі прывык". Зразумела, што бык азначаў тут хлапца, а цялушка дзяўчыну. Формула гэта на працягу цэлых стагоддзяў была моцна распаўсюджана на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Зрэшты, не толькі на Беларусі, бо таксама і ў Польшчы. Вядомы даследчык Г. Бегелейсэн піша, што сваты ў польскіх вёсках часта ўжывалі формулу: „Nasz byczek zatęsknił za waszą cieliczką, czy byście im nie pobłogosławili?".

Калі чытаем сёння такія словы, здаюцца яны нам смешныя або нават вульгарныя. Тым часам трэба памятаць аб тым, што ў істоце амаль усё ў жыцці адноснае. І вельмі часта тое, што было калісьці сур'ёзнае, з часам становіцца непаважным і камічным, або наадварот.

Сказанае адносіцца асабліва да стылістыкі выказванняў, дэкларацый. Датычыць гэта не толькі таго стылю, якім карысталася неадукаванае, цёмнае сялянства, але таксама стылістыкі высокаасвечанага грамадства.

І таму на формулу „наш бык..." трэба глядзець са спакоем і зразуменнем. Такой пастава, зрэшты, вымагае многае з таго, што прамінула назаўсёды.

**А. Баршчэўскі**

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

### ЦВІНТАРЭЙ МАЛЫ

На Беласточчыне яшчэ можна знайсці мізэрную, вышынёй 10-20 см, з чырвонымі кветачкамі раслінку, на якую не звяртае ўвагі звычайны прахожы, але за якой ганяюцца знаўцы лячэння зёлкамі або збіральнікі зёлкаў. Гэта цвінтарэй малы (лацінская назва — Centaurium umbelatum, tysięcznik pospolity — польская, па-руску — золототысячник зонтичный, малый). Сама назва расліны надта ж старажытная. Памыляюцца тыя, хто лічыць, што гэтае зёлка памагае ад тысячы хвароб і таму займела такую назву. Назва Centaurium старагрэчаская. Яна ўвекавечыла старажытную легенду, быццам кентаўр Хірон, які быў знаўцам лячэння зёлкамі і вучыў дзяцей багоў адрозніваць і ўжываць зёлкі, якраз гэтай раслінай загойваў раны. Таму яе назвалі „зёлкам кентаўра".

Вядома таксама і іншая легенда пра паходжанне гэтай назвы. Пашырылі яе ў сярэднявечча лекары-манахі. Быццам бы адзін багаты чалавек гэтак цяжка захварэў, што аніякі лекар не змог яму памагчы. Не знаходзячы выхаду, хворы прысягнуў, што калі выздаравее, то раздасць бедным 100 залатых дукатаў. Пасля тае прысягі, на сваё здзіўленне, ён знайшоў каля ложка пучок зёлкаў і гэтымі зёлкамі вылечыўся. З таго часу манахі пачалі пісаць на рэцэптах назву травы ў скарачэнні: 100-aurum. Аднойчы вучань памыліўся і замест 100, напісаў 1000 і так засталося centaurum (centum — тысяча і aurum — золата). Так ці інакш было з тою назвай, аднак несумненна тое што лячэбныя ўласцівасці расліны былі вядомыя яшчэ ў далёкай старажытнасці.

Пліній (жыў у 23-79 гадах нашай эры) назваў цвінтарэй „жоўцю зямлі". І не толькі з-за горкага смаку, а галоўным чынам дзеля таго, каб падкрэсліць яго лячэбныя ўласцівасці. Калісьці цвінтарэй ужывалі як сродак на ўкусы змей, скарпіёнаў, жоўтай ліхарадкі і ў атаках малярыі, ад болю страўніка і інш.

Цяпер вядома, што зелле цвінтарэю — гэта дасканалае лякарства пры катарах страўнікавага тракту, на бескіслотнасць і бесплазмавасць страўніка, ад хваробаў пячонкі і жоўцевага пузыра. Яно таксама дапамагае пры неўралгічных болях страўніка і падагры. Яно — асабліва каштоўны ўзмацняльны сродак у працэсе выздараўлення з цяжкіх хваробаў і пасля хірургічных аперацый. Цвінтарэй паволічвае выдзяленне страўнікавых сокаў, паскарае страваванне, павышае апетыт.

Значная колькасць людзей ведае пра лячэбныя ўласцівасці гэтай расліны, і гэта стала прычынай яе парадзення. Узнікла неабходнасць забяспечыць цвінтарэй частковай відавай аховай. Збіраць зелле цвінтарэю на патрэбы Гербаполя можна толькі з дазволу Галоўнага кансерватара прыроды. Таму сардэчна прашу: не рвіце гэтай карыснай расліны без патрэбы! А калі ўжо каму-небудзь неабходна збіраць, то ніколі нельга вырываць яе з карэннем. Найлепш зрэзаць нажом на 1/3 вышыні ад зямлі. Уласнае запатрабаванне на цвінтарэй можна таксама задаволіць, набываючы ў аптэцы гэтае зёлка (Herba Centaurii) або таблеткі „Calmagina". Зелле цвінтарэю таксама ўваходзіць у склад многіх сумесяў страўнікавых лякарстваў.

У народнай медыцыне прымяняюць напаранні або адвары сцёртага ў парашок цвінтарэю ў дозе: адна сталовая лыжка на шклянку вады, прымаць па паўшклянкі. А таксама наліўку: адна частка зелля на тры часткі 70° спірту, прымаць па адной гарбатняй лыжачцы 3 разы на дзень. Як напаранне, так і наліўку прымаюць на паўгадзіны перад ядой.

**Б. Паскробка**

МІМАХОДАМ

### ЭХ, ВЫ, ГАЙНАЎСКІЯ ЛАЎКІ!

Кожны раз, калі знаходжуся ў Гайнаўцы, сумна спаглядаю на лаўкі, якія стаяць на невялічкім скверыку, на рагу вуліц М. Бучка і 1 Мая (насупраць станцыі ПКС). Зрэшты, ці гэта лаўкі? Яны зусім паламаныя. Хтосьці там прабуе іх ладзіць, кладзе нейкія дошкі, але і так нічога з гэтага не выходзіць. Ці сапраўды нікому з людзей, адказных у горадзе за парадак, гэтыя паламанцы не рэжуць вока?

Праўду кажучы, з лаўкамі ў іншых месцах горада не лепш. Усюды яны паламаны. Хуліганы не ашчадзілі нават лавак, зробленых на мурку, перад новымі крамамі на вул. 1 Мая. Яшчэ горш выглядаюць тыя, якія стаяць пры жылых карпусах. Ды наогул, у Гайнаўцы замала лавак на вуліцах. Не хапае іх таксама пры некаторых алеях у парку 30-годдзя ПНР.

Варта, каб улады горада нарэшце пацікавіліся гэтай дробнай, але важнай справай.

**П. Байко**

(Працяг са стар. 7)

лая, — растлумачыў мне селянін. — Я зараз таксама туды прыеду.

Яго парада аказалася для мяне вельмі карыснай.

— Гэта ўсё сталася вось тут, на гэтым панадворку, — сказала цётка Галена, паказваючы рукой суседавы панадворак. У 1944 годзе была яна 15-гадовай дзяўчынкай і ўжо з цікаўнасцю падрастаючай паненкі прыглядалася да паводзін бадзёрых салдацікаў.

— Яны тут у суседкі, — расказвала Галена Грыгарук, — якраз наладзілі вясёлае застолле. Адзін салдат, Коля, так, Коля, бо гэтае імя цвёрда ўбілася мне ў памяць, спраўляў тады свае імяніны ці нарадзіны. І гэты Алёша зайшоў да нас у хату, каб папрасіць у кампанію іншых сваіх сяброў і дзяўчат. І ўжо вяртаўся назад. А тут раптам нямецкі снарад разарваўся на панадворку... І канец. А такі прыгожанькі быў салдацік! І ўжо не радавы, бо меў на пагонах нейкія нашыўкі, у якіх я нічога дагэтуль не разбіраюся. Аляксеем яго тут называлі...

— А можа Аляксандрам, значыць Шуркам? — запытаў я. Жанчына крыху памаўчала, падумала і адказала:

— Магчыма, столькі ж гадоў ужо прайшло з гэтага часу. Шурка? А дзеля чаго вам гэта патрэбна? — пацікавілася яна. І я, каб паясніць справу, зноў расказаў аб пошуках Міхаілам Бравікам магілы свайго роднага брата Аляксандра Баравіка. Галена Грыгарук, якая ад дзяцінства расла круглай сіратою і зведала не адну горкую бяду, слухала мяне са спачуваннем, а пасля і заявіла:

## І МОЙ БРАТ

— Так, загінула тут гэтых бедных савецкіх салдацікаў. Прыйшлі яны да нас у нядзелю і спыніліся на нейкія тры дні, бо ў сераду недзе ад Заблудава нямецкая артылерыя пачала закідваць нашу вёску сваімі снарадамі. І ўявіце сабе вось такое здарэнне: аднаму салдату захацелася вішняў. Яны якраз даспелі, залез ён вунь туды, — паказала яна, — на высокую вішню ды заядаецца гэтымі смачнымі ягадамі. А тут — бабух! — снарад разарваўся каля вішні і гэты салдацік скаціўся на зямлю ўжо мёртвы. А ў іншым месцы, таксама ў нашых Подварках, афіцэры вынеслі стол у агарод, бо стаяла тады страшэнная гарачыня, расклалі на стале свае ваенныя карты і штосьці глядзяць, а тут зноў снарад нямецкі — бабух! — ды проста ў гэты стол. Так што збіраць не было чаго. Але пахавалі іх вельмі ўрачыста ў адной магіле, тут, на Пяценцы. Цяпер там паставілі прыгожы помнік.

Гэта тая самая магіла, аб якой якраз вяду я расказ. Помнік паставілі ў 1968 годзе. Паклапацілася аб гэтым тадышняя кіраўнічка тутэйшай школы Ніна Вазнеўская.

Толькі тут неабходна заўважыць, што гэты помнік увекавечвае імёны двух лейтэнантаў: Пятра Шаўчэнкі і Барыса Ермалаева. Галена Грыгарук сцвярджае, аднак, што на магільніку ў Пяценцы пахаваны яшчэ два іншыя чырвонаармейцы. Адзін гэты, які загінуў на панадворку, і другі, якога смерць застала на вішні. Адзін з іх — гэта Аляксандр Сямёнавіч Баравік. Але хто чацверты? Проста невядомы салдат. Невядомы, як той кожны чацверты, які не вярнуўся ў сваю беларускую сям'ю, як той брат Аляксея Самасюка...

**Віктар Рудчык**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Сцяпан Кухараў

## НА ГРЫБЫ

Да старога селішча Зазер'е з захаду падступае зацішны лясок, а з усходу яно апярэзваецца шэрай стужкай асфальту. Мы наважыліся сюды прыйсці досвіткам, калі яшчэ не спахапіліся грыбнікі, Іх досыць і ў тым жа Зазер'і, і ў Яснаўцы, і ў Слабадзе.

У Слабадзе жыве наша бабуля Зося. І цяпер да яе падахвоціўся з'ездзіць разам са мной меншы хлапчук Уладзік. Павячэралі, не запальваючы святла. Уладзік сабраўся на вуліцу да хлопцаў, якія па цямночку збіраюцца ля ракі, на дашчанай танцпляцоўцы. Похапкам надзеў бабуліну ватоўку і ціхутка шуснуў за дзверы. Я крыкнуў яму наўздагон, каб не бавіўся, бо ведаю, тады не падымеш яго ўранні. Уладзік у адказ прысвіснуў:

— Я не пайду!..

За акном вусцішна-трывожна прашумела старая вілаватая бяроза. „Пэўна гэта на дождж, — падумалася мне. — За ноч і грыбы павыскакваюць з імхоў..."

Здарожаны, я змогся сном, але ў сенечках забразгала клямка. Неспадзявана вярнуўся Уладзік, празяблы і мокры — нахапіўся раптоўна аблажны дождж.

— Мабыць, на ўсю ноч, — мосцячыся на ляжанцы, прамовіў ён. — Пагуляць не даў!

„Гэта добра, — падумаў я, распаляючы сябе на грыбную вылазку. — Можа, Уладзіка ўдасца ўгаварыць. Бо што я без Уладзіка? Вочы ўжо не такія зыркія, як былі ў маладосці. І ногі не носяць так лёгка, як калісь. З Уладзікам крок у крок не патраплю. І сягаю, здаецца шырока і спорна, але не паспяваю. А ён, бы на крылах..."

— Што, Уладзік, пойдзем заўтра ў грыбы? — пытаю сына, прыгарнуўшы яго мокрую, гарачую галаву да сябе.

— А куды? — няпэўна цікавіцца Уладзік і пазяхае: — На Драніцу ці ў Падвалле?

— Пойдзем у Падвалле, — асцярожна кажу я, баючыся, каб Уладзік не заўпарціўся. Ён у мяне як той казёл, калі занатурыцца, з месца не скранеш.

— Не пайду, — як адрэзаў Уладзік і адвярнуўся да сцяны.

...Падхапіўся я рана, прыслухаўся — за акном у бярозавым голлі яшчэ шапацеў дождж.

Уладзік спаў, прытуліўшыся да халоднай, з зімы не паленай грубкі, і варушыў вуснамі — мабыць, нешта сніў.

„Відаць, не варта кратацца ў дождж", — падумаў я і заплюшчыў вочы. Калі прачнуўся, свяціла сонца. Яно клікала на двор, на мокрую вуліцу, гатовую напоўніцца жывымі, бадзёрымі гукамі і галасамі, якія не абмінуць і гэтай старой хаты, дзе жыве адзінокая бабуля Зося на ўцеху нам з Уладзікам і ўсім унучкам.

Я пачаў тармасіць Уладзіка:

— Уставай, сынок. Хадзем у грыбы...

— Не пайду, — не расплюшчваючы вачэй, адзываецца Уладзік. Але я заўважаю: вусны кранула хітраватая ўсмешка.

Уладзік перавярнуўся на другі бок — тварам да мяне. Я пачаў хуценька збірацца. Апаласнуўся ля студні, сабраў сняданак і паклаў у кошык два ножыкі-карначыкі, якія знайшоў у каморы.

А ўжо і бабуля наша тупае па хаце: на стале з'явіліся бялюткія яечкі — канечне ж, толькі з гнязда.

— Гэта вам з Уладзікам, свежанькія...

— А што, хіба і Уладзік устаў? — знарок гучна пытаю-

(Працяг на стар. 10)



Васьмікласніцы Аня Нічыпарук і Ірына Цеслюк з Барысаўкі ля школьнай студні. Фота Я. Чэрнякевіч.

Ларыса Геніюш

## ЛЕС

Не было журботна ў лесе:
Кожны жыў там, як хацеў,
Ад птушыных, весніх песень
Лес на ўсе лады звінеў.

Пахаджалі там лісічкі,
Бегаў зайчык невялічкі,
Пралятaлі там арлы
Ды праходзілі зубры.
Хораша было усім —
І дарослым, і малым.

Раптам з поўначы, здалёк,
Там з'явіўся страшны воўк
І сказаў:
— Цяпер, звяры,
Я начальнік у бары.

Будзь тут кожны паслухмяны!
Каб не беглі на паляны
Быстраногія казулі!
Каб мядзведзі карак гнулі!
Каб не швэндаліся зайцы —
Галадранцы, пабягайцы!
Зубр жа, хоча ці не хоча,
Хай, як я, раве па-воўчы!

Не жывуць звяры — бядуюць,
Свайго голасу не чуюць.
Пушча днём раве і ўночы
Адной нотаю — па-воўчы.
Хто ж уздумае інакш —
Болей сонца не пабачыць.

Бег па сцежачцы Алесік...
Не чуваць птушыных песень.
Сціхлі дрэвы і кусты.
Лес без птушак, лес пусты.
Лес стары зусім замоўк,
Толькі ходзіць шэры воўк,
Злосна ляскае зубамі
Ды ўсё сварыцца з зубрамі:

— Што за нораў недарэчны —
Не грызуць слабых авечак,
Толькі лісцейка скубуць,
Па-зубрынаму равуць.

Воўк завыў на цэлы лес:
— Бачыце, ідзе Алесь!
І ён будзе мне служыць!
Так, як я, па-воўчы выць!

Тут Алесь схапіў дубіну,
У ваўка з размаху кінуў,
Закрычаў:
— Зубры-сябры!
Усіх склікайце, хто ў бары!
Зубы вострыя і рогі —
На ваўка! —

А Воўк — у ногі,
Ды зубры яго схапілі
І на рогі падчапілі.

Зноў спакой настаў у лесе.
Салаўі пяюць Алесю.
Скачуць весела вавёркі.
Пакаціўся вожык з горкі.

На паляне песні, гулі.
Скачуць спрытныя казулі.
Прыляцелі жураўлі.
Птушкі селяцца ў галлі.

Весялей плыве рака,
Як даў воўча драпака.
Зноў пяе вясёла лес.
Не нацешыцца Алесь.





„Зорцы" ўдалося злавіць момант, калі хлопцы з Дашоў рыхтавалі віншавальныя паштоўкі да Дня Маці. Усе былі моцна занятыя, бо паштоўкі павінны былі выйсці цудоўныя, каб усе мамы былі задаволены. Фота Я. Чэрнякевіч.

Анатоль Давыдаў

## РАДАСЦЬ

Аднойчы наша настаўніца папрасіла напісаць пра свой найшчаслівейшы дзень.

Урок даўно пачаўся. Пецька — мой сусед — ва ўсю скрыпіць даўгапісам, а я ў столь гляджу і ўспамінаю: які ж у мяне быў найшчаслівейшы дзень? Вось каб у мяне пра самы няшчасны дзень спыталі, я мог бы напісаць, як мы з Пецькам пасварыліся.

Мне на дзень нараджэння спартыўны веласіпед купілі — новенькі, лёгкі, бліскучы. Толькі я яго на вуліцу вывеў, Пецька падбягае і кажа:

— Дай паездзіць!

А я кажу:

— Едзь, ці ж мне шкада?

Ён па вуліцы праехаў тудысюды, а потым нырнуў у завулак і знік. З'явіўся праз гадзіну — задаволены, вясёлы. А я на яго раззлаваўся.

Так і пасварыліся. Цэлыя тры дні не гаварылі. Потым пагадзіліся, вядома. А праз месяц яму на дзень нараджэння таксама веласіпед купілі. Не спартыўны, праўда, а звычайны.

Я яшчэ трошкі падумаў і пачаў пісаць пра свой дзень нараджэння. Усё з самага пачатку: як прачнуўся і як убачыў каля ложка бліскучы падарунак, як скакаў ад радасці, і як мы з татам чыталі інструкцыю — і наогул аб тым, што дзень нараджэння, што ні кажы, самы прыемны дзень у годзе.

Я ўжо і памылкі праверыў, а Пецька ўсё піша. Што ён так распісаўся? Мабыць, пра свой дзень нараджэння піша, пра свой веласіпед!

Мне зрабілася крыўдна. Выходзіць, што ў нас з Пецькам нават радасць аднолькавая! Ці ж дзяўчаткі зразумеюць, што мая радасць большая? Што Пецькаў звычайны веласіпед няма што раўняць да майго спартыўнага!

І я дапісаў яшчэ, што ў майго веласіпеда руль спартыўны і тры перадачы.

Паглядзеў на Пецьку, а ён усё піша і ўсміхаецца.

Пішы-пішы, думаю, усміхайся. А я яшчэ дадам, што ў маім веласіпедзе колы тоненькія, а ў Пецькавым — тоўстыя, як у грузавіка. І што наогул яго веласіпед на параўнанні з маім нічога не варты. Во як!

Потым мы чыталі свае выпрацаванні ўголас. Дайшла чарга і да мяне. Я прачытаў сваё, сеў і гляджу на Пецьку: цікава, як ён будзе свой веласіпед расхвальваць?

Пецька раскрыў сшытак і пачаў чытаць:

„Марына Дзёмчук — наша застэмповая. Яна ўжо вучыцца ў шостым класе. З ёю нам вельмі цікава. Марына рыхтавала з намі свята любімай кніжкі. Расказвала аб гарцэрскай арганізацыі, аб гарцэрах. А аднойчы пасля ўрокаў яна павяла нас у лес. Потым яна не прыйшла: захварэла. Яна праляжала хворая цэлы месяц! Але аднойчы дзверы нашага класа адчыніліся, і ў клас увайшла Марына! Усе спачатку замоўклі ад нечаканасці, а потым заскакалі і закрычалі ад радасці. Вось які ў мяне быў самы шчаслівы дзень..."

Ледзь толькі Пецька зачыніў сшытак, як Каця падскочыла:

— Гэта не толькі твая радасць!

— І я тады не менш цешылася! — закрычала Вера.

— І я! І я! — крычаў Вася.

І такі пачаўся шум! Кожны даказваў, што іменна ён больш за ўсіх цешыўся, калі прыйшла Марына.

Толькі Пецька маўчаў. А пасля ўрокаў ён сказаў:

— Давайце ёй кветак назбіраем, у тым лесе, куды яна нас вадзіла.

— Правільна! — сказала Каця.

— Я даўно хацела запрапанаваць, — сказала Вера. — Толькі ўсё забывалася.

— І я! — сказаў Вася. — Забываўся.

А мне даручылі заўтра перад урокамі з'ездзіць па кветкі. Да лесу далёка, а ў мяне веласіпед.

Спартыўны. З трыма перадачамі.

## РОБІМ САМІ ЦАЦКІ




### КАПЯЛЮШ

*Прыйшла чарга навучыцца рабіць з газеты арыгінальны, пышны капялюш.*

*Бярэм газету вялікага фармату і складаем яе ўздоўж напалавіну (мал. 1). Складзены прамавугольнік заламваем зноў напалавіну, але ўпоперак, каб атрымаць сярэдзіну. Тады левую частку складаем уверх па дыяганалі да сярэдняй лініі, у адлегласці 5-8 см ад яе, а праву частку складаем таксама ўніз (мал. 2). Так складзеную цэласць складаем па сярэдняй касой лініі на адваротны бок (мал. 3). Такім спосабам атрымалі знізу ніжнюю простую лінію, якая складаецца з двух крыл з вострымі вугламі зверху. Цяпер складаем да сярэдзіны правы бакавы вугал і закладваем яго пад складзены ўверх левы вугал (мал. 4). Перакладваем на адваротны бок і таксама складваем і замацоўваем другі вугал (мал. 5). Абодва вуглы складваем з улікам на размер галавы. Каб памяншыць капялюш, вуглы закладваем далей. Засталося развярнуць капялюш знізу ад сярэдзіны і надзець на галаву (мал. 6).*

*Маю надзею, што вам спадабаецца такі арыгінальны капялюш з паперы.*

**Ваня Майстар**

 **ПАГЛЫБЛЯЙ**  **СВАЕ ВЕДЫ** 

### НА КАМЧАТЦЫ

Здарылася аднойчы са мной на Камчатцы дзіўнае дзіва — грэўся я ля самага што ні ёсць сапраўднага вулкана, які вывяргаўся: выкідваючы са сваёй макаўкі, з кратэра, раскаленыя да чырвані камяні. Адны камяні былі памерам з манету, другія — з тэлефонную будку. Іх вулканолагі „бомбамі" называюць. А жартам — чамаданамі.

На Камчатцы вулканаў шмат. Нездарма ж яе называюць краінай вогненных гор. Каля многіх дзейнічаючых вулканаў стаяць станцыі назірання. Станцыя — гэта звычайны драўляны дом. Толькі ў такім доме, апрача печкі, ложкаў і сталоў, ёсць яшчэ шмат розных прыбораў.

І вось аднойчы ў раёне вулкана Плоскі Талбачык, які лічыўся ціхім, прыборы выявілі частыя падземныя штуршкі.

Вулкан — гэта што? Гэта, можна сказаць, велізарная падземная печка, у якой бушуе, бурліць раскаленая магма — „каменная каша". Калі яна ўжо вельмі нагрэецца, дык ад тэмпературы пачынаюць варушыцца велізарныя каменныя глыбы. Ад таго і адчуваецца вакол вулкана калыханне зямлі — землетрасенне. Так было і на гэты раз.

Вучоныя хутка паведамілі аб магчымым вывяржэнні пастухоў, якія ля падножжа вулкана паслі статкі аленяў. Пастухі адразу ж адагналі аленняў ад вулкана. І слушна.

Але Плоскі Талбачык не сам разбушаваўся. Побач з ім пачаў расці з зямлі новы вулкан, малодшы брат гэтага.

Здарылася гэта на досвітку чэрвеньскім ранкам. Нечакана пад зямлёй пачуўся страшны гул. Звяры і птушкі адразу прыціхлі, насцярожыліся. А гул станавіўся ўсё мацнейшы, страшнейшы. Зямля затрэслася і... трэснула. Ледзь толькі паявілася трэшчына, як з яе са страшным рыкам вырваўся вогненны слуп, і ў неба ірвануліся раскаленыя камні, шлак і попел. Паваліў дым, густы, чорны. Можна было падумаць, што ў неба страляе велізарная падземная армата. І расла, расла на вачах сапраўдная гара. Гарачая, ахутаная попелам і дымам.

Шмат дзён і ночаў бушаваў новы вулкан. Ён моцна вырас. Стаў сапраўднай гарой... Але аднойчы ён сціх, і з яго макушкі вырвалася вогненная рака — расплаўленая магма. Вучоныя адразу змералі яе тэмпературу. Ого! Амаль тысяча градусаў! Вогненная каменная рака імчалася ўніз, спальваючы на сваім шляху лес, выпараючы возера, расплаўляючы камені. Доўга яна цякла, патрошку астываючы. Пакуль зусім не застыла каменнымі хвалямі.

Такой і цяпер яе можна пабачыць.

**Паводле Ю. Пшонкіна**

(Працяг са стар. 9)

## ПА ГРЫБЫ

ся я і кірууюся на хату.

Уладзік ляжыць на ляжанцы, працірае заспаныя вочы, усміхаецца.

*

Паперадзе, у паліняных джынсах, у сіняй футболцы, на галаве пакамечаная белая шапачка — ад сонца, дыбае Уладзік. Я ледзь паспяваю за ім.

З абодвух бакоў палявой дарогі стаіць высокая густая збажына, нават Уладзік, які ўжо амаль на галаву вышэйшы за мяне, ледзь дастае каласоў.

Навокал цішыня. Сонца ледзь адскочыла ад лесу. Яшчэ халаднаватыя, як заспаныя, промні нячутна, як нехаця, натыкаюцца на жытнёвую сцяну, і жыта пачынае ледзь прыкметна варушыцца. Здаецца, во па каласах пабягуць кволыя дрыготкі — за пагоркам азваўся ранішні ветрык. На зеленаватых, але ўжо засаладзелых каласах засерабрыліся буйныя, па добрай гарошыне, расінкі-каралі. Мабыць, з начы дажджынкі. У срэбных дыяментах і прыдарожныя травы — рамонкі, васількі, званочкі. А вакол высокая, шчыльная, руку не прасунеш, жытнёвая сцяна.

— Во гэта жыта! — гучна кажу я, каб і Уладзіка абудзіла маё захапленне жытам. Я тут хадзіў вясною, было суха і гаркавата ад пылу. Смагла жыта, прасіла вільгаці. Вятры праносіліся над полем, паспешліва зганялі дажджавыя хмары кудысьці далёка, за небакрай.

— Уладзік, глядзі, якое жыта, — ледзь не крычу я. Хачу, каб і сын падзяліў са мною маю радасць. Але Уладзік маўчыць. Яго, мусіць, не кранае гэтае навакольнае хараство, якое ўліваецца мне ў душу разам са свежасцю і пахам жыта. Здаецца, і мне аддае часцінку сілы, якую зямля аддала жыту. Хочацца крычаць ад радасці.

— Ты, Уладзік, мабыць і не ведаеш, што з гэтых во яшчэ зялёных каласоў будуць тыя смачныя булкі, што пячэ бабуля? — пытаюся сур'ёзна ў сына. Ён зіркае на мяне хітраватымі вачанятамі і ўсміхаецца.

— Так і не ведаю! — на твары іронія. — Дарэмна ты, тата, турбуешся. Твой сын ужо ўсё ведае. А ты думаеш, што калі ён жыве ў горадзе, то нічога і знаць не знае. Я, можа, пасля школы на агранома пайду вучыцца.

Падскокваючы, Уладзік пусціўся бегма па мокрай, прыбітай дажджом пясчаніцы — на даляглядзе ўжо чарнела палоска хвойніку: нас вітала ранішняе Падвалле.

**Заканчэнне праз тыдзень.**

### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 3 | 6 | 10 |
| 2 | 5 | 9 | 13 |
| 4 | 8 | 12 | 15 |
| 7 | 11 | ? | 16 |

**Падумай, якую лічбу трэба ўпісаць у кратку замест пытальніка.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 26 VII** — 9.00 Domator. 9.10 Teleferie. 10.10 Domator. 10.30 DT. 10.40. Spartakiada. 10.55 Biały kruk — film radz. 12.30 Domator. 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc. 19.10 Studio Festiwalowe — Moskwa 85. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 Biały Kruk — film ZSRR. 22.05 Żniwa 85. 22.15 DT. 22.35 Studio Lato. 23.05 Na imieniny — dla Anny — widowisko artystyczne. 0.15 DT.

**Sobota 27 VII** — 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Kino Teleferii: „Dziewczyna i chłopak" film TP odc. 4 „Dochodzenie". 9.45 Koncert Przyjaźni — w wykonaniu zespołów pieśni i tańca wyjeżdżających na Festiwal Młodzieży i Studentów — Moskwa 85. 10.15 Radar. 10.30 DT. 10.40 Teatr TV — W. Bieńko „Sposób na życie". 11.50 Muzea i galerie w Polsce — Łańcut. 12.20 Rezonans. 12.50 Morze wokół nas. 13.30 Poradnik rolniczy. 14.00 Z Polski rodem. 14.30 Zdrowie. 15.00 DT. 15.10 Lista przebojów. 15.40 Trybuna Sejmowa. 16.10 W starym kinie: „Dwie noce z Kleopatrą" — włoska komedia film. 17.25 Studio sport — lekkoatletyka PRL — CSRS+kronika Ogólnopol. Spart. Mł. 18.40 Losowanie dużego lotka. 18.50 Człowiek dla człowieka. 19.00 Dobranoc: Bolek i Lolek na Dzikim Zachodzie. 19.10 Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów. 19.30 Dziennik. 20.00 Tajemnica zamku w Karpatach — film fab. CSRS. 21.35 Czas. 22.05 DT. 22.10 Koniec wspaniałego dnia — wid. muz. 22.45 Studio Sport. 23.10 Kino nocne: „Rewir sierżanta Mortimera" odc. 7 „Garść żwiru".

**Niedziela 28 VII** — 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Kino Teleferii: „Krokodyle z przedmieścia" — film fab. RFN. 10.30 DT. 10.35 Wielkie rzeki świata — „Pad" — franc. film dokum. 11.30 Siedem anten. 12.20 Koncert życzeń. 13.10 Kraj za miastem. 13.30 Zielona Góra 85 — „Zwycięstwo żyje szczęściem pokoleń". 14.35 Rodowody pokolenia. 15.00 DT. 15.10 Skarbiec. 15.50 W starym kinie: „Serce matki". 17.20 Studio sport (relacja z międzypaństwowego meczu — PRL — CSRS). 18.20 Antena. 19.00 Dobranoc: „Chłopiec z gliny". 19.10 Studio festiwalowe — Moskwa 85. 19.30 Dziennik. 20.00 „Diana" cz. 6. — film TV ang. 20.50 Klub międzynarodowy. 21.25 Leksykon polskiej muzyki rozrywkowej „M". 22.00 Sportowa niedziela. 22.30 DT.

**Poniedziałek 29 VII** — 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc: „Pietruszka opowiada bajki". 19.10 Studio Festiwalowe — Moskwa 85. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Telewizji. 21.40 Żniwa 85. 21.20 DT. 21.50 Studio Sport — Kronika Wyścigu dookoła Polski. 22.05 Studio Lato. 22.35 Pegaz. 23.20 DT.

**Wtorek 30 VII** — 9.00 Domator. 9.10 Teleferie — „Beznudna wyspa+„Pszczółka Maja". 10.25 Domator. 10.30 DT. 10.40 „Układ krążenia" odc. 2 — „Obwiniony" film TP. 12.00 „Brazylia nieznana" odc. 5 „Zaczęło się od kauczuku". 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc: „Przygody rozbójnika Rumcajsa". 19.10 Festiwal Moskwa 85. 19.30 Dziennik. 20.00 Czas wyborów. 20.30 „Układ krążenia" odc. 2 „Obwiniony" film TP. 21.50 DT. 22.10 Informator Wydawniczy. 22.25 Kronika Wyścigu dookoła Polski. 22.40 Studio Lato. 23.10 Historia Wielkiego Konkursu — odc. 4. 23.50 DT.

**Środa 31 VII** — 9.00 Domator. 9.10 Teleferie: Krąg+„Znak Orła" film TP odc. 5 pt. „Wici". 10.10 Domator. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Elegia". 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 18.20 Losowanie express lotka i małego lotka. 19.00 Dobranoc „Miś Uszatek". 19.10 Studio Festiwalowe — Moskwa 85. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Elegia", film fab. bułg. 22.05 Żniwa 85. 22.10 DT. 22.35 Ludzie i zdarzenia. 23.25 Studio Lato. 23.55 DT.

**Czwartek 1 VIII** — 9.00 Domator. 9.10 Kino teleferii: „A to heca"+„Pszczółka Maja". 10.25 Domator. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Jemima Shore prowadzi śledztwo". 11.00 „Galapagos" — film dokum. 16.55 Program dnia. 17.00 Gdy wybiła godzina „W" — wojsk. program histor. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc. 19.10 Studio festiwalowe Moskwa 85. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Jemima Shore prowadzi śledztwo" film TV ang. 21.40 DT. 22.00 Studio Lato. 22.35 Progr. public. 23.15 DT.

## КІНО

**Bielsk Podl.** Fotysz — pol. 29 VII. Tootsie — USA 30 VII — 1 VIII.

**Czeremcha** Przyśpieszenie — pol. 31 VII.

**Czyże** Zabić drapieżnego ptaka — rum. Tyranowska Caryca — bułg. 31 VII — 4 VIII.

**Hajnówka** Przypływ uczuć — fr. 29. Sny i marzenia — pol. 30—31 VII. Królowa pszczół — pol. 2—4 VIII.

**Michałowo** Rejs do Singapuru — rum. 30—31 VII.

**Mielnik** Seksmisja — pol. 29 VII — 1 VIII.

**Milejczyce** Tak zaczyna się miłość — czes. Kiedy dojrzewa jagoda — jug. 31 VII — 4 VII.

**Narewka** Mistrz boksu — rum. Akcja pod Arsenałem — pol. 31 VII — 4 VIII.

**Nurzec** Legenda o Paulu i Pauli — NRD 31 VII.

**Orla** Sabina Wulff — NRD. Filip z konopi — pol. 31 VII — 4 VIII.

**Rajsk** Czuję się świetnie — pol. W biały dzień — pol. 31 VII — 4 VIII.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### ДРУЖБА

Працаўнікі Ваяводскай паштовай установы сабраліся нядаўна, каб рэактываваць дзейнасць гуртка польска-савецкай дружбы. Апошнія бурлівыя гады не спрыялі яго сістэматычнай працы.

Было выбрана новае праўленне гуртка ТППР у асобах: Уладзімір Прахарук — старшыня. Мар'я Кузьмін — намеснік, Мар'я Трыкошка — сакратар, Галіна Лукашук — касір, Галена Белабока — член.

Новы гурток апрацаваў план працы. У першую чаргу — трэба сабраць складчыны да канца жніўня, а потым прыцягваць новых членаў. Гурток хоча пачаць весці хроніку. А ў кастрычніку, разам з філатэлістычным гуртком, хочуць зрабіць выстаўку. У планах таксама сустрэча працаўнікоў пошты з паштоўцамі-пенсіянерамі — былымі салдатамі Савецкай Арміі.

Гэтыя і іншыя дзеянні членаў і кіраўніцтва гуртка разам з кіраўніцтвам ваяводскай паштовай установы будуць служыць умацаванню польска-савецкай дружбы. **В. Брацкі**

### КАЛІ СЫПНЕ КАША?

З кожным годам у нашым рэгіёне прыбывае збожжа. Акруговае прадпрыемства збожжа-млынарскай прамысловасці ў Беластоку павялічвае свае збожжасклады. Да ўжо існуючых элеватараў у Старасельцах дабудоўваюць яшчэ два збожжасховішчы на 30 тысяч тон.

У 1986 годзе плануюць закончыць пабудову млына ў Бельску. Будуць тут малоць перш за ўсё жыта.

Варта дадаць, што ў Старасельцах узвялі будынкі, у якіх ідзе мантаж машын і іншага абсталявання для прадукцыі грэцкай кашы. Будзе тут таксама лушчарня гароху. **(яц)**

### ДЗВЕ ПАЧАКАЛЬНІ

Пісалі мы раней пра дзве разбітыя пачакальні на аўтобусных прыпынках ПКС у **Бабровай** і **Вілах** на шляху Беласток — Баброўнікі.

Зараз пачакальня ў Вілах адрамантавана. Страшыць толькі сваім выглядам вята ў Бабровай (Заблудаўская гміна). **(яц)**

### І КУДЫ СПЯШАЮЦЦА?

Амаль штодзень праходжу я вуліцай Жвіркі і Вігуры ў Бельску. І што хачу сказаць? Да гэтай вуліцы даходзіць вельмі рухлівая вуліца Беластоцкая. З вуліцай Жвіркі і Вігуры злучаецца яна паваротам. Асцярожныя і разумныя шафёры ездзяць тут правільна — змяншаюць хуткасць. Але ёсць вельмі многа такіх шарлатанаў, што калі праедзе, то як бы тайфун прайшоў. І куды яны спяшаюцца? **Ж. М.**

### АД КАРЭСПАНДЭНТАЎ — КОРАТКА

Андрэй Гаўрылюк паведамляе аб добрых і хуткіх паслугах, якія выконвае „Прэдом" у Бельску на вуліцы Міцкевіча 50. Яны ладзяць пішучыя машыны, калькулятары і ўсялякія лічыльныя машыны.

Павел Панфілюк расказвае пра добрага гаспадара са сваёй вёскі Грэдалі — Дзмітра Велюка. Гаспадар мае 20 га зямлі, трымае 8 кароў, 2 коней, кантрактуе лён. Сее таксама грэчку і збожжавыя, садзіць многа бульбы. Вось на весну прадаў кармавой бульбы 8 тон. Мае ўласную аўтамашыну і трактар, а да трактара ўсе прычэпныя машыны.

Велюк — добры механік, усё робіць сам. У яго дыплом майстра-механіка і свая майстэрня.

### КАЖУЦЬ, ШТО...

на Чаромхаўскай чыгуначнай станцыі ад даўжэйшага часу вядзецца паядынак паміж пэўнай групкай рабочых а начальствам.

Дагэтуль ніхто не загінуў. „Параненых" больш аднак засталося на баку рабочых. Дзіўна, што ніхто з „вярхушкі" не выступіць арбітрам у гэтай дуэлі? **(ус)**




Марыі Пень і іншым. Усе рабочыя размовы адносна перадачы экспанатаў у Беларускі музей трэба весці з бюро Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху, якое змяшчаецца ў Гайнаўцы на вуліцы Вызвалення 6. Тэлефон 28-89.

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Спісак чарговых ахвяравальнікаў:

**253. Ніна Мартыновіч (Орля) — 2000 зл.**
**254. Анатоль Мартыновіч (Орля) — 2000 зл.**
**255. Ян Пацкевіч (Беласток) — 1000 зл.**
**256. Вучні кл. III б Пачатковай школы ў Кляшчэлях — 350 зл.**
**257. Кааператыўны банк у Гайнаўцы — 2000 зл.**
**258. Мікалай Падлашчык (Сямяцічы) — 100 зл.**
**259. Пётр Кавалевіч (Літвінавічы) — 100 зл.**
**260. Сяргей Путко (Клюковічы) — 100 зл.**
**261. Анатоль Леўчук (Літвінавічы) — 100 зл.**
**262. Віталіс Луба (Мілейчыцы) — 100 зл.**

Дзякуем.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова.
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54.
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6.
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах.
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Купалле на Нарве • Сторажы права • Чытачы аб „Ніве" • Алесь Барскі аб прыгожым паміранні • Мікалай Гайдук развітваецца з Беларуссю • Рэмінісцэнцыі Сакрата Яновіча • Віктар Швед пра двухмоўнасць • Д. Шатыловіч начуе на пашы • Часовы Рэвалюцыйны Камітэт Польшчы • На званіцы Ф. Хлябіч • Ваенныя сцежкі • Сардэчныя тайны • Пахучае зелле • Для дзяцей — „Зорка" • Што-дзе-калі • Гумар**

## — КАЛЯНДАР —

**330 гадоў назад**

28.7.1655 пам. С. Сірана дэ Бержэрак, французскі пісьменнік і мысліцель.

**235 гадоў назад**

28.7.1750 пам. І. С. Бах, нямецкі кампазітар.

**95 гадоў назад**

29.7.1890 пам. В. ван-Гог, галандскі жывапісец.

## Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł., rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych maistach, w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli,
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
- do dnia 10 listopada na I kwartał i półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego.

Zam. 1268/85 r. Nakład 3.500 G-4

# ЯК КОШКА НА ЯЙЦАХ...

Заязджаю я ў Гарадок да знаёмых, а тут навіну мне ад самага парога нясуць:

— А ў нас курыца кацянят выседжвае!

У шырокім карытку сядзіць квактуха на саломе. З-пад крылаў і натапыранага пер'я — то ножка, то хвосцік высунецца, то сляпая галоўка, а курыца клапатліва піхае іх назад. Засмяяліся мы.

З панадворка прыйшла кошка, коса паглядзела на нас, залезла ў катух. Курыца прыпаднялася, упусціла яе. Пакаціліся кошкі ссаць маці, памагаючы сабе лапкамі.

— Тут у карытку квактуха выседжвае куранят, — кажа гаспадыня. — Сюды прыйшла каціцца і кошка. Прывяла кошка кацянят, памыла іх, а сама пайшла паесці. Вяртаецца — а на яе дзецях сядзіць курыца. Кошка лягла на яйкі.

— Ды колькі яек абагрэе кошка! — смяецца гаспадар. — Адно, двое, ды і бегае многа, дзе ж ёй да выседжвання!

Сабрала гаспадыня неданоскі ды выкінула, а кошка з квактухай заняліся сваімі дзецьмі. Цікава, што з іх вырасце?

**Мяцёлка**

Чаго ў спорце не бывае.





# НІЎКА



— Кінеш жэрабя?

## ЦЯПЕР НААДВАРОТ

Сумляневіч скардзіцца свайму знаёмаму:

— Чаго гэта так выходзіць: калі мой кум пазычаў у мяне грошы, то я ішоў па сцежцы, а ён тупаў па абочыне? Цяпер вось ужо паўгода ўсё наадварот...

## „ДЫ КАЖУ!"

Дырэктар школы выклікаў бацькоў вучня для размовы.

Прыйшла маці.

— Вы ведаеце, ваш сын учора прыйшоў у школу п'яны! Кажыце яму нешта.

— А я, думаеце, не кажу? Ты ж, кажу, ірадзе пракляты, як віп'еш, то закусвай чым-небудзь. Ды ці ж паслухае!

## ПАМЫЛІЎСЯ

Суседка ўбачыла на галаве суседа гузак.

— Хто гэта так ударыў вас па галаве?

— Мая мілая жонка.

— Ваша жонка? А я думала, што яна паехала адпачываць.

— Я таксама думаў.



Made in Zadrypanka.



Усё жыццё лавіў сябе на чужой думцы.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Перад снеданнем граф аб'яўляе свайму лакею:

— Сёння, Жан, у мяне рабочы настрой. Таму я аблуплю яйка сам.

*

Настаўнік:

— Ваш сын вельмі слабы па геаграфіі.

— Няважна. З нашымі даходамі далёка не ад'едзеш.

*

Стары злодзей дыктуе сваю апошнюю волю:

— Адны брыльянтавыя каралі коштам сто тысяч долараў завяшчаю табе, Боб...

— Дзякуй, тата. А дзе гэтыя каралі? — пытаецца сын.

— У ракфелераваў спальні, калі ідзеш з балкона, злева...

## ЗАМОЧКА

Гаварылі на праўленні:
— Трэба, хлопцы, нам павець.
Ёсць і дошкі, і бярвенні,
Дык чаму ж яе не мець?
Будзе схавішча машынам
Ад дажджу і ад снягоў.
Справа добрая, мужчыны,
Тут вядома ўсё без слоў...
Падабралі пляц удалы
Неяк з ранняе вясны.
Цеслярам тут працы мала,
А зарабак — не дурны.
Збудавалі, расхвалілі:
— Людска зроблена павець!
І машыны закацілі —
Там не будуць іржавець.
— Замачыць, — крычалі, — трэба —
Пагуляем да начы!
Раптам дождж паліўся з неба
І праз дах усё змачыў.

**Захар Бірала**

З „Весніка Задрыпоніі"

## УВАГА! НАВІНКА

Закідонская фабрыка асвоіла выпуск фотаапаратаў, з якіх вылятае не птушка, а бройлерная курыца. Навінка хутка заваявала сімпатыю пакупнікоў.

## ДЫЛЕМА ДАЦЭНТОВІЧА

Ці можа анёльская цярплівасць быць праваю чартоўскай хітрасці?







# Курёзы

## „КАРАЛЕЎСКІЯ" ВЕДЫ

Нейк ува Францыі праходзіў чарговы конкурс на „каралеву прыгажосці". Запалаўшы жаданнем узняць тых „каралеваў" на яшчэ вышэйшы п'едэстал, — даказаць, што ў іх прыгажосць ідзе ў пары з інтэлектам, — суддзі конкурсу злёгку кранулі і іншыя веды.

Вынікі былі апаламляльныя: пераможніца конкурсу не патрапіла назваць чатырох найбольшых гарадоў Францыі, ляпнула, што генерал дэ Голь быў камуністам, і не змагла скеміць, колькі год цягнулася стогадовая вайна.

Тым часам, як не без іроніі адзначыла газета „Ранд дэйлі мэйл", валадарка таго „каралеўскага" тытулу незадоўга перад тым склала экзамены на атэстат сталасці, што дало ёй права паступаць ва універсітэт.

## ЗАПІСКА

У баначку з валкасцю ад маршчын была ўкладзена запіска: „Калі вам не спадабаецца наш сродак, вярніце нам тое, што ў вас застанецца ў флаконе, а мы вам вернем тое, што ў вас застанецца ад вашых грошай".




Разам з сапраўднымі поспехамі прыходзяць фальшывыя сябры.